№ 36 (777) 26 верасня 2012
www.nn.by
НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА
# Наша Ніва
ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА
Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



## У цэнтры Мінска адкрылася беларускамоўная кавярня



Цэны ў «Альба-каве» болей чым прымальныя. Старонка 15.

## Прахараўна філігранна папала ў шчыліну тры разы

Імёны я не запісваў — па-мойму, гэта не важна. Гудзілін пра выбары ў вёсцы. Старонка 6.

# Выбары прайшлі спакойна і рэзультатыўна



З такім загалоўкам у аўторак выйшла «Советская Белоруссия». На фота: дзяўчынка-свінка на «Дажынках-2012». Болей пра выбары — старонкі 3-4. Пра «Дажынкі» — старонка 9.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Тэндэнцыі

## Выбары без выбарцаў

Карэспандэнт «НН» лічыў галасы на ўчастку «байкотнай» акругі.

Да сталічнай Фрунзенскай акругі №101 падчас выбараў была прыкаваная найбольшая ўвага назіральнікаў. Менавіта тут актывісты Руху «За Свабоду», Партыі БНФ, «Гавары праўду» і партыі «Справядлівы свет» ладзілі кампанію «Байкот-101». Апазіцыянеры заклікалі жыхароў акругі не ісці на выбары, а самі выказалі гатоўнасць пракантраляваць на ўчастках увесь працэс галасавання.

Па акрузе балатаваліся тры кандыдаты, прычым нікога ад апазіцыі. Цяперашні дэпутат, камуніст Аляксей Кузьміч, лічыўся кандыдатам з улäднага спіса. Ягонымі канкурэнтамі былі ЛДП-шнік Вадзім Пярвушын, а таксама адзіны кандыдат Беларускай сацыяльна-спартыўнай партыі, работнік «Мінскай ТЭЦ-4» Ігар Жур. А вось сябра Партыі БНФ Арцём Лява з выбараў зняўся.

### Цяжкі лёс назіральнікаў

Назіральнікі былі сканцэнтраваныя на тым, каб фіксаваць кожнага выбарца, які атрымаў бюлетэнь. Аднак цалкам даць рады пастаўленай задачы не ўдалося. У першыя дні датэрміновага галасавання некаторыя назіральнікі проста не дайшлі да сваіх месцаў.

Працяг на старонцы 4.

In memoriam

### Хрысціна Шацікава памерла ў 36 гадоў

У грамадскай актывісткі быў рак лёгкіх. Старонка 8.



Крымінал

### Крыкі дзяўчыны чулі, але ніхто не рашыўся выйсці

Жорсткае забойства ў Гомелі: 102 удары нажом. Старонка 10.



Свецкая хроніка

### Агурбаш замяніла журналістка Улевіч

Раней яна працавала ў «Камсамольскай праўдзе ў Беларусі». Старонка 8.



Гісторыя

### Дзе ў Мінску засядаў Трыбунал ВКЛ?

Загадка камяніцы з рызалітам. Піша Алег Дзярновіч. Старонка 13.





Уладзімір Някляеў

# Пах турмы

На 50-годдзе праваабаронцы Алеся Бяляцкага.

Калі слухаць і слухаць,
Як выюць за кратамі вецер са снегам,
Як у фортцы звініць і звініць зледзянелае шкло,
Можна ўспомніць варагаў з хазарамі і печанегаў —
Шмат чаго, што мінула, нібы не было.
Можна ўспомніць Афіны і Рым
і падумаць пра рымлянак,
Пра гетэр — не хапае за кратамі рымскіх гетэр…
Але ўспомніўся мне
воўк у лесе зімовым пад Рымцелямі:
Як, унюхаўшы пах чалавечы, ашчэрыўся звер!
Не таму, што галодны. Я бачыў па бруху: наеты.
Ён да логвішча йшоў — і не быў я ў патрэбу яму.
Але пах, які вычуў ён,
быў не з ваўчынага свету:
Звер учуяў турму.
Можна ўспомніць, калі
зазвініць капяжамі адліга
І за кратамі
ценькне вясnova нараніцы птах,
Як ашчэрваўся свет на Хрыста
і на Марціна Лютэра Кінга,
На любога і кожнага, хто чалавечынай пах.
Можна ўспомніць… Але
ў ваўчыных вачах не пра тое…
Скрозь прапахла зямля
потам,
спермай,
мачою,
крывёю
Ад Афінаў і Рыма — і да Калымы,
Ды нішто і ніхто ў гэтым свеце не пахне турмою —
Толькі мы.

**З радыё «Свабода»**

**Каментар**

## «Сівая легенда», або Латушкава беларусізацыя

Цяжка пісаць пра чыноўніка пры дыктатуры. Калі ты (рэдактар незалежнай газеты) яго хваліш, гэта можа каштаваць яму нерваў. Калі ты яго ганіш, гэта таксама пярэчыць ягонаму самалюбству. Таму пра чыноўнікаў цяпер часта, як пра жывых нябожчыкаў, маўчаць. Або (разумныя людзі) усё-такі ганяць: яно надзейней.

Таму не буду пісаць пра чыноўніка, буду пісаць пра оперу.

Нацыянальная опера — гэта падзея. Вядома, тэатр цяпер не адыгрывае той ролі, якую меў у XIX стагоддзі, якую адыгрывала пасля кіно ў першай палове XX стагоддзя і тэлебачанне — у другой яго палове. Гэтая роля цяпер — на шчасце ці на бяду, але, па-мойму, на шчасце — належыць інтэрнэту як платформе, дзе цэнтралізаваны кантроль, рэжысура цяжэйшая. І тым не менш, опера — гэта Опера — Твор, вялікі твор.

«Сівая легенда» паводле Караткевіча на адкрыцці сезона ў Оперы — гэта заслуга міністарства Паўла Латушкі. Як і новыя помнікі, фэсты. Гэты вынік трох гадоў, у якія міністр Латушка паслядоўна, але асцярожна імкнуўся абмаладзіць, ажывіць, даць імпульс.

Музыка Смольскага магутная і, сапраўды, ні трохі не састарэла.

Музыка вартая таго, каб адкрываць кожны музычны сезон. Пра рэжысёрскія і вакальныя вартасці пастаноўкі вычарпальна напісаў на сайце nn.by аматар Оперы Сяржук Русецкі (пакуль ёсць такія людзі, як Русецкі, ёсць і культура).

Мяне ў «Сівой легендзе» найбольш уразіла тое, што з яе зусім знік сюжэт пра народнае паўстанне. У Караткевіча гэта была опера пра паўстанне, а ў Панджавідзэ-Смольскага ў 2012-м гэта опера пра каханне.

Балазе хоць рэпліку пра «клятыя Магілёў» не выразалі з Караткевічавай песні. А маглі б!

Менавіта кампазітар Смольскі «зрэзаў з пастаноўкі тое, што не адпавядала рэаліям сённяшняга дня». «Тэмы народнага бунту, як у першай версіі і аповесці Караткевіча, няма», прызнае маэстра ў праграмцы спектакля.

У новай версіі оперы няма ніякіх алюзій на сучаснасць, пераасэнсавання. Гэта старанна адноўлены дакумент эпохі, з якога вычышчана ўсё, што можа навесці на «няправільныя» думкі.

Ролі народа ў гісторыі няма. Як народ выкарыстоўвае барацьбу эліт і як эліты выкарыстоўваюць народ у сваіх інтрыгах — тэма не раскрыта.

Ведаючы Караткевіча, можна смела сказаць, што ён бы скандаліў, калі б быў жывы. Зрэшты, калі б пражылі даўжэй Караткевіч, Геніюш, можа і гісторыя пайшла б іншай дарогай, і скаротаў да костак не было б?

Пастаноўка выйшла неглыбокая. Гэта не «Барыс Гадуноў» і не «Макбет», хоць музыка — вялікі шэдэўр, а сюжэт — далёка не меладрамная гісторыя брадвейскага тыпу. І народ — не масоўка, якая немавед чаго вылятае з сякерамі. І найміты — яны і ў Афрыцы найміты.

І, тым не менш, гэта нацыянальная опера. І гэта геніяльна.

Павел Латушка, ходзіць мова, ужо атрымаў агрэман у якасці Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Беларусі ў Францыі. Хто будзе ягоны наступнік, ці будзе ён гаварыць па-беларуску і якая будзе ягоная палітыка, у тым ліку і рэпертуарная палітыка? Ці захавае ён падыходы і «легенды», якія спавядаў Латушка? Гэта будзе залежаць і ад асабістых перакананняў гэтага чалавека, і ад палітычнага заказу, бо і тое, і другое мае значэнне пры гэтай сістэме.

Пакуль ствралася ўражанне, што Латушка — гэта хутчэй унікум, вынятак, а не рэпрэзентацыя пэўнай палітычнай групоўкі, якая служыць аўтарытарнаму рэжыму, але акрэслена бачыць нацыянальную лінію.

**Андрэй Дынько**

## Джэніфер Лопес віталі ў Мінску з балалайкай

25 верасня мегазорка поп-музыкі Джэніфер Лопес упершыню выступала ў Мінску. У межах сусветнага тура Dance Again спявачка паказала сваё новае шоу на сцэне «Мінск-Арэны». Некалькі гадзін чакалі прыхільнікі зоркі каля ўвахода ў гатэль «Краўн Плаза» ў надзеі хоць бы краем вока ўбачыць «прадмет глыбокай пашаны».

І вось, нарэшце, спявачка ў суправаджэнні ахоўнікаў, усміхаючыся, выйшла да іх. Джэніфер сустрэлі... песняй пад балалайку і гармонік.

Справа ў тым, што сярод фанатаў былі і самадзейныя музыканты з Мінска. Тыя самыя «Світэр бойз», якія вывесілі ў сталіцы білборды з надпісам «Я люблю цябе, Джэніфер Лопес!» і запісалі песню, прысвечаную поп-дзіве. Вось яны і сустрэлі спявачку каля гатэля. Джэніфер была ўсцешаная.

**БелаПАН**





## Сцісла

### Апошняе бабіна лета

Другая палова тыдня будзе нашмат цяплейшая за першую. Паветра на поўдні Беларусі прагрэецца да 22—27 градусаў, на поўначы — да 17—22 градусаў. І будзе ясна.

### Арэндныя кватэры: цікавая навіна

Арэндную кватэру можна будзе атрымаць на ўсё жыццё і перадаць у спадчыну, паведаміла Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва. Жыллё, якое даецца чаргавікам па цэнах, у паўтара-два разы ніжэйшых за сярэднерынкавыя, павінна з часам стаць альтэрнатывай льготнаму крэдытаванню.

### Мільён «Белавія»

Нацыянальная кампанія «Белавія» пераадолела рубеж у 1 млн перавезеных пасажыраў з пачатку 2012. Мільённы пасажыр быў перавезены 23 верасня на рэйсе Мінск — Новасібірск, які быў адкрыты сёлета ў чэрвені. Летась гэты паказчык быў дасягнуты толькі ў канцы снежня.

### Будзе помнік князю Міндоўгу

Завяршаецца конкурс на стварэнне эскізных праектаў помніка Міндоўгу —першаму князю Вялікага Княства Літоўскага. Арганізатарамі конкурсу выступаюць Мінкультуры і Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў. Паўстане помнік у Навагрудку.

### Нелегальнае казіно ў цэнтры Мінска

Па інфармацыі Дэпартамента фінансавых расследаванняў КДК, яго арганізавалі службовыя асобы аднаго з грамадскіх аб'яднанняў. Яны штодзённа праводзілі азартныя гульні без дазволу на такую дзейнасць. Падчас праверкі супрацоўнікі фінансавай міліцыі сканфіскавалі 22,6 млн рублёў і каля тысячы даляраў.

**СГ, КМ**

## Анекдот

### Жыццё, як Ярмошына

Жыццё, як Ярмошына: спачатку ставіць перад нечаканым выбарам. Прымушае вырашыць. А потым абвяшчае свой вынік.

**Міхась Пашкевіч**

**Больш анекдотаў — старонка 16.**

## Самае чытанае на nn.by за 19—25 верасня

1. Гудзілін на Дажынках — неафіцыйны рэпартаж фатографа «НН»
2. У цэнтры Мінска адчынілася беларускамоўная кавярня — відэа
3. Які працэнт яўкі на гэтым участку (ведамасці на фотах)? 57%!
4. Памерла Хрысціна Шацікава
5. Вы ідзяце галасаваць? А спіс дэпутатаў ужо вядомы
6. Дзівосы канала «Еўраньюс»: «Назіральнікі ад АБСЕ прызналі выбары чэснымі і празрыстымі»
7. Неймаверны БАТЭ! Барысаўцы выйгралі ў гасцях у «Ліля» 3:1
8. Студэнты БНТУ: «Галасуем датэрмінова, бо так трэба»
9. Анжаліку Агурбаш замяніла беларуская журналістка Улевіч + фота
10. Нацбанк: «Абменый» пункт — фотафакт

# Участкі стаялі пустыя

**Парламенцкія выбары** прайшлі пры нізкай яўцы.

Беларусь атрымала чарговы стэрыльны парламент. У першым туры было абрана 109 дэпутатаў са 110. Казус адбыўся толькі ў Гомельскай-Навабеліцкай акрузе, дзе перад самымі выбарамі зняўся праўладны вылучэнец, памочнік прэзідэнта Пракапенка. Ходзяць чуткі, што ён аказаўся ўблытаны ў нейкую справу. Адзіным кандыдатам застаўся ЛДПовец Мельнікаў. Але ў беларускім парламенце нават такога «іншароднага цела» быць не можа. Па афіцыйных дадзеных, «супраць усіх» прагаласавала па акрузе больш за 80%. Перавыбары, найхутчэй, аб'ядноўваць з мясцовымі выбарамі-2014.

Зрэшты, гэтым разам ніхто і не спадзяваўся, што ў авальнай зале з'явяцца апазіцыянеры. Лукашэнка нават намёкаў не даваў, што можа некага прапусціць.

Тым не менш, знаходзіліся рамантыкі, што спадзяваліся трапіць у палату прадстаўнікоў. Ігар Драко з «Гавары праўду» на поўным сур'ёзе заяўляў, што ў кандыдатаў ад кампаніі ёсць шанцы трапіць у другі тур. Не здымаліся таксама левыя са «Справядлівага свету» і некаторыя прадстаўнікі Руху «За Свабоду».

### Датэрміновае

Зноў быў запушчаны механізм загону студэнтаў і вайскоўцаў на датэрміновае галасаванне. З розных ВНУ краіны прыходзілі адноолькавыя звесткі: не прагаласуеце датэрмінова — не заселім у інтэрнат, будуць праблемы на экзаменах.

У выніку ў датэрміновым галасаванні ўдзел узялі 26% выбарцаў. Зноў вялізнай аказалася розніца па галасах за кандыдатаў у асноўны дзень і ў датэрміновыя. Раней Ярмошына тлумачыла гэта тым, што апазіцыйны электарат не ідзе на датэрміновае. Але ж цяпер розніцу можна было адчуць і на ўчастках, дзе незалежных кандыдатаў не было зусім.

Напрыклад, па школе №4 Мінска за дэпутатку Валянціну Лявоненку датэрмінова прагаласавала 69%, а ў асноўны дзень — 44%. Як такое можа быць? Галасуюць жа жыхары таго самага раёна. Нідзе ў свеце падзел галасоў датэрміновага і звычайнага галасавання не розніцца.

У Мінску па акрузе №110 дайшло нават да таго, што тым, хто прыйшоў на ўчасткі датэрмінова, давалі бясплатныя талоны на піва ці мінеральную ваду.



Фота афіцыйнага пратакола: яўка 25,7%.

### Страх

«Галасуем датэрмінова, бо так трэба», — сказалі нам у БНТУ. За тое, што моладзь прыйшла на ўчасткі раней, ім абяцалі дадатковыя выхадныя. Звестак пра «загон» на датэрміновае ў адну толькі «Нашу Ніву» прыйшла цэлая лавіна: з Полацкага і Баранавіцкага ўніверсітэтаў, Мінскага лінгвістычнага, БДЭУ, радыётэхнічнага каледжа, сельгасакадэміі ў Горках, Беларускага дзяржаўнага аграрна-тэхнічнага ўніверсітэта і медыцынскіх СНУ. Значыць, гэта была не самадзейнасць асобных намеснікаў дэканаў і камендантаў, а прадуманая палітыка. Узнікае пытанне: а нашто? Нашто гнаць менавіта на датэрміновае галасаванне? Нашто ўвогуле гнаць на выбары: закон кажа, што чалавек вольны галасаваць або не галасаваць і калі галасаваць. І тым не менш, такая гісторыя.

### Яўка

«Народ на выбары ідзе неахвотна», — вырвалася ў старшыні ЦВК Лідзіі Ярмошынай раніцай у нядзелю. Тым не менш, выніковыя лічбы ўразілі. У абласцях прагаласавалі найменш 3 з 4 выбарцаў, а ў Мінску больш за палову.



СЯРГЕЙ ГРЫЦ, АСАЦЫЭЙТЫД ПРЭС

У дзень галасавання Аляксандр Лукашэнка пераконваў, што выбары ў Беларусі бездакорна сумленныя.

Назіральнікі сядзелі на некаторых участках з ранку да вечара, запісвалі кожнага чалавека, што галасаваў. Потым глядзелі ў выніковыя пратаколы і не верылі сваім вачам. Участкі былі пустымі, а яўка складае больш за 50%.

На ўчастку №594 ва Усходняй акрузе Мінска старшыня камісіі на відэа агучыў лічбу 317 прагаласаваўшых, гэта значыць 28%. Аднак пратакол з гэтага ўчастка быў «скрадзены», а потым «выяўлены» ў акруговай камісіі ўжо з зусім іншымі лічбамі. Яўка загадкавым чынам вырасла да 50,9%.

Назіральнік Зміцер Нікіцін ад Аб'яднанай грамадзянскай партыі здолеў сфатаграфаваць на ўчастку №470 афіцыйны пратакол, паводле якога ўсяго выбаршчыкаў — 1653 чалавекі, прагаласавала (з улікам датэрміновага галасавання) — 425 чалавек. Гэта 25,7%.

Паводле ацэнак назіральнікаў, на большасці ўчасткаў у дзень галасавання на выбары прыйшло ад 15 да 25% выбаршчыкаў.

### Пратэст

Гэтыя выбары сталі першымі за доўгі час, калі ніхто з апазіцыі не клікаў на Плошчу. Невялікая дэманстрацыя пратэсту была ў 2004, калі выбары былі сумешчаныя з рэферэндумам аб падаўжэнні паўнамоцтваў Лукашэнкі, была і ў 2008.

Цяпер жа незалежнае грамадства адыходзіць ад трагічных наступстваў 19 снежня 2010, калі многія апынуліся ў турме, а іншыя — у эміграцыі.

### Ацэнкі

«Можна канстатаваць, што выбарчая кампанія праходзіла ў арганізаванай і спакойнай абстаноўцы», — так ацанілі выбары ў місіі назіральнікаў СНД. Яны зазначылі, што парушэнні мелі хутчэй тэхнічны характар.

«Спакойныя і рэзультатыўныя», — так напісала пра выбары «Советская Белоруссия».

Выбары ў Беларусі не былі бесстароннімі, што падрывае давер да выбарчай кампаніі — такая сутнасць папярэдняга даклада Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека (БДІПЧ) і Парламенцкай асамблеі АБСЕ. Ацэнка Еўрасаюза і ЗША аднаназначная: выбары ані свабодныя, ані сумленныя.

Відавочна, што людзі не пайшлі на гэтыя выбары, прычым не толькі ў Мінску, але і ў драбнейшых гарадах. Калі выбары за выбарамі нічога не мяняюць, то які сэнс на іх хадзіць, мяркуюць людзі.

**Зміцер Панкавец**

## Урад Германіі: Лукашэнка — гэта трагедыя для Беларусі

Парламенцкія выбары ў Беларусі прайшлі ў абстаноўцы, якая не садзейнічае праведзенню свабодных выбараў, гаворыцца ў апублікаванай 24 верасня заяве ўрада Германіі. Берлін заклікаў Аляксандра Лукашэнку вызваліць палітзняволеных і спыніць рэпрэсіі ў краіне.

Афіцыйны прадстаўнік урада ФРГ Штэфен Зайберт адзначыў, што ва ўмовах няспыннага запалохвання большая частка апазіцыі адраклася ад удзелу ў выбарах. На яго думку, Лукашэнка прадоўжыць курс на рэпрэсіі замест партнёрства з Еўропай. «Для краіны, для грамадзян Беларусі гэта трагедыя», — заявіў прадстаўнік кабінета канцлера Ангелы Меркель.

**БелаПАН**

## Віталь Каратыш афіцыйна перамог у Кажан-Гарадку

Незалежны беларускамоўны кандыдат Віталь Каратыш па Лунінецкай выбарчай акрузе атрымаў некалькі перамог.

«У роднай вёсцы — Кажан-Гарадку — я атрымаў 58% галасоў. Тут не змаглі сфальшаваць вынікі выбараў. На некаторых іншых участках таксама атрымаў перамогу ў асноўны дзень галасавання, але па выніках датэрміновага — вялікае «адставанне». На адным з участкаў супраць усіх прагаласавала 30%.

Я не перамог у гэтых выбарах, але і не прайграў. Суперніцу магу павіншаваць, што яна стала дэпутаткай, але не з перамогай. Для мяне ж гэтыя выбары — трамплін у будучыню».

**ЗП**



## «Цырк, дый годзе»

Кандыдат з Руху «За Свабоду» Андрэй Юркоў **перамагаў у асноўны дзень** галасавання, але прайграў у цэлым.

«На ўчастках сельскагаспадарчай акадэміі мне напісалі 5–10%, быццам студэнты мяне не падтрымліваюць. Цырк, дый годзе. На мінулых выбарах і тое было 20–25%, — кажа Андрэй Юркоў. — У Дрыбіне я перамог на адным з участкаў. На ўчастку, дзе я назіраў, было ў асноўны дзень 160 галасоў на 120 на маю карысць. А ў датэрміновае ў прапорцыі 1 да 4 на карысць суперніка. Хочуць нас тут дэмаралізаваць».

Ці не шкадуе Андрэй, што не зняўся з выбараў. «Не, яны ж ад майго ўдзелу шалелі да апошняга моманту. Значыць, трапіў у самы яблычак».

**ЗП**

## Дзівосы канала «Еўраньюс»

«Назіральнікі ад АБСЕ прызналі выбары **чэснымі і празрыстымі**».

«Назіральнікі ад АБСЕ ў цэлым прызналі выбары чэснымі і празрыстымі», — паведаміў тэлеканал «Еўраньюс» у сваім рэпартажы, які круціўся ў эфіры цэлы панядзелак.

Між тым на сваёй прэс-канферэнцыі ў панядзелак кіраўнікі місіі АБСЕ акрэслена назвалі выбары ў Беларусі несвабоднымі і неканкурэнтнымі.

Дык што гэта было на канале «Еўраньюс»? Дзікі непрафесіяналізм рэпарцёраў, якія абмежаваліся кантактам з кімсьці з прыкормленых назіральнікаў, або чыясьці выключная ангажаванасць?

Цікава, што такі падман ішоў толькі на расейскамоўнай версіі канала. Англамоўны, франкамоўны і ўкраінскамоўны «Еўраньюс» перадавалі ацэнкі назіральнікаў карэктна.

**Мікола Бугай**

# Выбары без выбарцаў

Працяг са старонкі 1.

Увечары ў дзень галасавання ў справу ўмяшаліся старшыні камісій. Напрыклад, назіральніка Сержука Бахуна выдалілі з участка за тое, што нехта размясціў у інтэрнэце здымак з памяшкання, дзе адбываліся выбары. А назіральнікаў Арыну Лісецкую і Сяргея Марцалева затрымала міліцыя і пратрымала ў пастарунку восем гадзін, пакуль не скончыўся падлік галасоў. Іх забралі з участка пасля таго, як назіральнікі зафіксавалі «карусель» — група з некалькіх чалавек пераязджала з ўчастка на ўчастак і галасавала на кожным з іх.

### У кожнага свае лічбы

Карэспандэнт «НН» вырашыў station назіраць за падлікам галасоў у Мінску на ўчастку №358 у звычайнай сталічнай школе №7 непадалёк ад дома. Чаму менавіта там? Паводле падлікаў назіральнікаў кампаніі «Байкот-101», да пачатку дня асноўнага галасавання тут атрымалі бюлетэні ўсяго 10,74% выбарцаў (231 чалавек). І хоць камісія зафіксавала ў пратаколе, што на ўчастку датэрмінова з'явіліся 19,3% выбарцаў (415 чалавек), лічбы падказвалі, што дабрацца да яўкі ў 50% будзе надзвычай складана.

Прыходжу на ўчастак за гадзіну да закрыцця. Камісія без лішніх праблем і пытанняў рэгіструе мяне. «Не падкажаце, якая ў вас яўка?» — «Спытайце лепш у назіральнікаў», — раіць старшыня камісіі, і свае лічбы не паказвае.

На ўчастку сядзяць сямёра назіральнікаў: дзяўчына ад Руху «За Свабоду», чатыры жанчыны ад лукашэнкаўскіх арганізацый накшталт БРСМ, а таксама двое камуністаў (апазіцыйны і праўладны). Прадстаўнік «Справядлівага свету» хаця б адзначае выбарцаў крыжыкамі на сваёй паперцы, а дзядуля з медалямі і значком СССР увогуле сядзіць спінай да ўчастка.

Назваць уцямныя лічбы выбарцаў не можа ніхто. Дзяўчына з Руху «За Свабоду» налічыла каля 290 чалавек, але шчыра прызнаецца, што часта выходзіла з памяшкання, лукашэнкаўскія жанчыны неахвотна дзеляцца сваімі лічбамі — каля 400 чалавек, — але з іх ніхто не праводзіць дакладны падлік на працягу ўсяго дня. Зрэшты, некаторыя нават і не пачыналі лічыць. Чаго тады прыходзілі?..

Калі арыентавацца на БРСМаўскія лічбы, за гадзіну да канца галасавання яўка ўсё адно ніяк не перавышае 40%. І нават калі накінуць пару дзясяткаў чалавек, якія маглі прыйсці падчас абеду назіральнікаў, можна з дакладнасцю казаць, што выбары не адбыліся.



Які працэнт яўкі на гэтым участку? 57%!

### Момант фальсіфікацыі

За апошнюю гадзіну галасуе яшчэ з дзясятак чалавек. Пераходзім да падліку. Камісія паводзіць сябе падкрэслена добразычліва, старшыня не ўводзіць ніякіх абмежаванняў. Аднак чамусьці назіральнікі нават не спрабуюць устаць з месцаў, падысці бліжэй. Камісія тым часам ні на крок не адыходзіць ад інструкцыі: пералічваюцца нявыкарыстаныя бюлетэні, пасля яны пагашаюцца і ўпакоўваюцца.

Нарэшце пачынаецца ключавы момант для «байкотнай» акругі — падлік колькасці выбарцаў. На кожнай старонцы са спісам жыхароў дома надрукаваныя па 25 радкоў з імёнамі. Супрацоўніцы камісіі выпадкова паварочваюць гэтыя аркушы да мяне, і я бачу, што на кожным з іх атрымалі бюлетэнь два, тры, максімум шэсць чалавек. Бачна, што не прыйшло нават чвэрці выбарцаў. Як гром пасярод яснага неба гучыць вынік: у дзень галасавання на ўчастак прыйшлі... 696 чалавек. Нагадаю, што нават лукашэнкаўцы не налічылі больш за 400 чалавек! Лічу на калькулятары: афіцыйная яўка склала 58%. «Выбары» адбыліся.



Назіральнікі ніяк не рэагуюць на відавочнае махлярства, падыходжу да іх: «У вас жа кардынальна іншыя лічбы. Вы будзеце пісаць скаргу?» У адказ цішыня. Паказваю ім на экране фотаапарата выяву пустых спісаў выбарцаў — ніякай рэакцыі. Толькі камуністы глыбакадумна заўважаюць, што, можа, нешта насамрэч няправільна падлічылі. Але калі перамагае камуніст Кузьміч, то навошта ім пратэставаць?

...Напрыканцы старшыня камісіі звяртаецца да рэшткі назіральнікаў, маўляў, ці ёсць нейкія заўвагі па працы? Не вытрымліваю: «Так, вы сфальсіфікавалі выбары. Яўка не магла скласці 58%». У зале павісае цішыня. Старшыня кідаецца да мяне: «Як вам не сорамна?! Мы вам стварылі ўсе ўмовы! А вы... Як вы пасля жыць будзеце з гэтым?!» Паказваю ёй зробленыя фатаграфіі спісаў выбаршчыкаў. «Вы не мелі права гэта здымаць!» — злуецца яна. Прапаную ёй прынародна яшчэ раз пералічыць, колькі выбарцаў насамрэч атрымалі бюлетэні. «Ды хто вы такі, каб я вам паказвала дакументы?! — абураецца старшыня камісіі. — Вы нават не назіральнік, а толькі журналіст!» Зрэшты, назіральнікам яна таксама нічога не паказвае, хаця б таму, што тым гэта нецікава. Дзяўчына з Руху «За Свабоду» ўжо сышла, а лукашэнкаўцы ў дыскусіі становяцца на бок камісіі.

Выніковы пратакол сведчыць, што Аляксей Кузьміч набраў 58% галасоў. Дзякуючы падобным лічбам з іншых участкаў, ён працягнуў свае дэпутацкія паўнамоцтвы.

На наступны дзень кампанія «Байкот-101» падсумавала і свае падлікі. Яўка на акрузе №101 склала 35,7%. Розніца ў падліках назіральнікаў і ўчастковых камісій перавысіла 9 тысяч чалавек.

**Ягор Марціновіч**

## Алесь Кіркевіч
## Кандыдату

Паболей афіцэрскіх лычак, партыяў,
Прамоваў з офісаў, вядомасці ў СМІ,
Каб палітолаг Мудакоў назваў вас вартымі,
Цікавымі і перспектыўнымі людзьмі.

Усё зглытне фэйсбук, жжарэ газета:
Партрэт, праграму і бясконцыя нулі.
Кавалак восені, шматочак лета...
Рабілі як маглі — зрабілі, што змаглі.

Прайгралі... ці не выпіць нам за гэта?
Сцяг над сталом — хоць рукі выцірай...
Тым часам краты-рэбры рэжуць небакрай
Для тых, хто барацьбу абраў за мэту.

Лісты чытачоў

### «Акрамя дробнага западла, нічога вам не зробяць!»

Не скажу за ўвесь БНТУ, але на АТФе [аўтатрактарны факультэт] большасць студэнтаў **усё ж адэкватныя** і не замбаваныя «СкваркаТВ»!

На мінулых прэзідэнцкіх «выбарах» хадзіў наўпрост па аўдыторыях на перапынках і раздаваў раздрукоўкі з заклікам паведамляць пра выпадкі прымусу галасаваць датэрмінова. І паўсюль добра сустракалі, дзякавалі! Не ведаю, ці скарыстаўся хто гэтым, але наш 4-ы інтэрнат добра засвяціўся ў зводках назіральнікаў. Мяне «адлавілі», мент перапісаў дадзеныя, але пасля перамоваў з начальствам адпусціў. Праз 10 хвілін мяне знялі з пары і павялі да дэкана. Намдэкана істэрыў, пагражаў, але пасля доўгіх перамоваў па тэлефоне мяне адпусцілі...

**Высновы**

1. Не бойцеся супрацьстаяць сістэме. Я спакойна адвучыўся, і, акрамя дробнага западла, мне нічога не зрабілі і не маглі зрабіць!

2. Гуртуйцеся, заступайцеся адзін за аднаго, падключайце медыі — так вас цяжэй запужаць.

3. Апазіцыі трэба комплексна і масава працаваць з навучальнымі ўстановамі, бо запужаць моладзь лёгка, а прававу інфу ў патрэбны момант ім атрымаць складана!

**Solig**

### «Напісала ім у бюлетэні: «Каб вы здохлі»

У Баранавічах учора тры інтэрнаты сагналі галасаваць. І сёння таксама. Хто абураўся, тым моцна пагражалі. «Я напісала на бюлетэні: «Каб вы здохлі».

**БарГУ**

## У Бельгіі памёр былы актывіст АГП Уладзімір Радзівончык



Яму было **39 гадоў**.

Уладзімір Радзівончык узначальваў пружанскія суполкі Аб'яднанай грамадзянскай партыі і Руху «За Свабоду». Калі яго адусюль звольнілі ў Беларусі, паехаў шукаць шчасця за мяжой.

Радзівончыку было 39 год. Апошнія гады ён хварэў на рак. Паводле ягоных знаёмых, да страшнага дыягназу паставіўся мужна. Калі хваробу выявілі, то дактары давалі некалькі месяцаў, а ён пражыў яшчэ 4 гады.

**СП**

# Азербайджан: **маючы нафту, можна забыцца на дэмакратыю**

Як патраціць мільярды даляраў з розумам?

«Вашае грамадства прадалося за $500», — папракаюць беларусаў. Што ж, азербайджанцы адракліся ад дэмакратыі і свабодаў за тую ж суму. Афіцыйны сярэдні заробак у Азербайджане пераадолеў запаветную мяжу літаральна месяц таму.




Сімвалам горада будучыні стануць тры хмарачосы, выкананыя ў выглядзе языкоў полымя.

### Сіндром Аліева

Адзначаць з помпай чарговы Дзень нафтавіка — адно з галоўных святаў Азербайджана — у Баку паклікалі сотні журналістаў з усяго свету, у тым ліку і з Беларусі. Падчас адкрыцця нафтагазавай выставы да мяне падышоў карэспандэнт з мясцовай газеты з наборам стандартных пытанняў. «Як вам краіна?» — «Ведаеце, тут шмат партрэтаў былога прэзідэнта Аліева», — заўважыў я. «Канечне, Аліеў быў вялікім чалавекам!» — «Але гэта выглядае вельмі смешна...» У наступную секунду журналіст адскочыў ад мяне. Можа, ён падумаў, што сустрэўся з правакатарам-замежнікам, які імкнецца ачарніць дасягненні Азербайджана? Зрэшты, мясцовыя газеты так і пішуць: «як завяшчаў вялікі лідар Гейдар Аліеў...» Так ці іначай, але культам Аліева-бацькі прасякнуты ўвесь Баку.

Прайшоўшы па набярэжнай праз цэнтральны парк (вядома ж, імя Гейдара Аліева), можна налічыць некалькі дзясяткаў партрэтаў былога прэзідэнта, падпісаных цытатамі з яго прамоваў. Раз-пораз сустракаюцца і плакаты з выявамі Аліева-малодшага. Менавіта ён шчыруе, каб азербайджанцы не забыліся пра яго бацьку.

У выніку ў сталіцы імя Гейдара Аліева атрымалі аэрапорт, праспект, культурны цэнтр, спартыўна-канцэртны комплекс, Акадэмія нацыянальнай бяспекі, нафтаперапрацоўчы завод... У краіне ёсць яшчэ ордэн, нафтапавод і нават горная вяршыня, названыя ў яго гонар.

Будучы бум у Баку шакуе турыстаў. Офісныя хмарачосы чаргуюцца з гіганцкімі гатэлямі і кварталамі жылых шматпавярховікаў на тысячы кватэраў. Шырачэзныя праспекты, якія маюць па пяць-шэсць палосаў для руху ў кожны бок, злучаюцца з новымі магістралямі. Пры гэтым нават скептыкі адзначаюць, што горад забудоўваецца з розумам, і гістарычная частка Баку застаецца некранутай. За чый кошт банкет? Тлумачэнне простае — Азербайджану надзвычай пашанцавала з геаграфічным знаходжаннем. Краіне дазволілі падняцца нафтавыя запасы.

### Нафтавая падушка бяспекі

Грошы, атрыманыя ад продажу вуглевадародаў, сцякаюцца ў Дзяржаўны нафтавы фонд Азербайджана. На пачатак верасня там налічвалася $33 мільярды. А ёсць яшчэ і $11 мільярдаў рэзерваў Цэнтрабанка. Для параўнання, Беларусь агулам назапасіла $8 мільярдаў, у 5 разоў менш.

Заслуга ў стварэнні спецыяльнага нафтавага фонду сапраўды належыць Гейдару Аліеву. Яшчэ ў сярэдзіне 1990-х ён заключыў так званы Кантракт стагоддзя, дазволіўшы дзясятку сусветных нафтавых карпарацый распрацоўваць радовішчы на Каспійскім моры. Гэтым была вырашана дадатковая задача. Кампаніі лабіруюць інтарэсы Аліева за мяжой, фактычна прымушаючы краіны Захаду заплюшчваць вочы на парушэнні правоў чалавека ў Азербайджане.

Аб'ёмы здабычы дагэтуль строга кантралююцца ўладай. Аліеўсын хоча падтрымліваць высокія цэны на сусветным рынку і расцягваць нафтавы рай для сваёй краіны. Апроч таго, у найбліжэйшы час пачнецца тэндар, каб абраць аператара для здабычы азербайджанскага газу. А гэта — новыя мільярды.

Праўда, ёсць і іншыя меркаванні на гэты конт. Многія эксперты прадказваюць, што запасы нафты ў Азербайджане нашмат меншыя, чым было заяўлена ўладамі. Калі ўлічыць, што ў апошнія гады даходы ад экспарту нафты дасягалі амаль 50% ВУП краіны, заканчэнне нафтавай казкі можа прывесці да катастрофы. Што да газу, то існаванне радовішчаў пакуль даказанае толькі тэарэтычна.

### Празрысты фонд і цьмяны фон

Па патрабаванні замежных карпарацый Дзяржаўны нафтавы фонд — надзвычай празрыстая арганізацыя. Падрабязныя справаздачы, якія знаходзяцца ў адкрытым доступе, дазваляюць даведацца, куды быў патрачаны кожны даляр. Грошы пераважна ідуць на інфраструктуру. «За апошнія тры гады ў Азербайджане пабудавана 2200 новых школаў, сотні паліклінік, бальніц, тэатраў і музеяў», — пералічвае выканаўчы дырэктар фонда Шахмар Маўсумоў. Нядаўна пачаліся і выплаты па замарожаных савецкіх укладах. Ураднавыя эканамісты пралічылі, што на гэта трэба выдаткаваць каля $1,5 мільярда. Невялікія грошы для багатай краіны.

Не ў накладзе застаецца і сям'я прэзідэнта Аліева. Падчас прыватызацыі прадпрыемстваў, якія засталіся краіне з часоў СССР, найбольш атрымалі чыноўнікі, набліжаныя да прэзідэнта, і ягоныя сваякі. Дзве дачкі кіраўніка дзяржавы маюць кантрольны пакет радовішча золата, яны ж валодаюць прадпрыемствам па абслугоўванні авіяліній, банкам, крамамі Duty-Free... А вось на малодшага сына запісаныя некалькі маёнткаў у Аб'яднаных Арабскіх Эміратах. І гэта толькі вядомая журналістам вяршыня айсберга сямейнага бізнэсу.

### Армянскае пытанне

Аснова ідэалогіі Азербайджана — тэзіс аб тым, што Гейдар Аліеў пабудаваў моцную самадастатковую багатую краіну. Усё было б у гэтай тэорыі гладка, калі б не няпэўная сітуацыя з Нагорным Карабахам і тэрыторыяй вакол яго. 20% плошчы Азербайджана кантралююць армянскія войскі.

Каб у 1990-х прыцягнуць у занядбаную краіну інвестараў, Аліеўбацька быў вымушаны скончыць азербайджанска-армянскую вайну, фактычна пасля паразы ў ёй. Аднак у стратэгічным плане рашэнне аказалася слушным. «Цяпер толькі нашыя вайсковыя выдаткі ўдвая перавышаюць увесь бюджэт Арменіі», — з гонарам заявіў днямі прэзідэнт Ільхам Аліеў. Пры маўклівай згодзе сусветнай супольнасці Азербайджан фактычна ізаляваў Арменію ад эканомікі рэгіёна, не дазваляючы краіне ўдзельнічаць у шматмільённых праектах.

Прапагандысцкая вайна з армянамі працягваецца дагэтуль. І для перамогі ў ёй улады гатовыя плаціць любыя грошы. Аліеў не пашкадаваў 2 мільярдаў еўра, каб набыць непрыбытковыя дзяржаўныя аблігацыі Венгрыі. За гэта венгры адпусцілі з турмы азербайджанскага афіцэра Раміля Сафарава. Той быў асуджаны на 30 гадоў турмы за тое, што падчас стажыроўкі ў Будапешце забіў сякерай свайго суседа армяніна, які нібыта абразіў азербайджанскі сцяг. «Сафарава, нашага нацыянальнага героя, памілавалі проста ў аэрапорце загадам прэзідэнта, — з гонарам расказвае адзін з уплывовых прапагандыстаў краіны, генсек Канфедэрацыі журналістаў Азербайджана Азер Хасрэт. — Дзяржава падарыла яму трохпакаёвую кватэру і выплаціла афіцэрскі заробак за тыя 9 гадоў, якія ён сядзеў у турме ў Венгрыі». «Але ён жа забойца?..» — рытарычна пытаюся я. «Так павінен быў зрабіць кожны патрыёт, — пераканаы Хасрэт. — Сафараў прыйшоў да армяніна з сякерай і патрабаваў прабачэння за абражаны сцяг. Той спалохаўся і стаў выбачацца. Але Сафараў вырашыў, што гэтага недастаткова, таму і забіў армяніна». З пункта гледжання Хасрэта і азербайджанскай прапаганды, сітуацыя выглядае цалкам лагічнай.

**Ягор Марціновіч, Баку—Мінск**

# Курсы валют павольна папаўзлі ўверх

Трывожных статыстычных паказчыкаў стала больш.

Курсы замежных валют павольна, але ўпэўнена рушаць уверх. 26 верасня свой гадавы максімум — 8490 рублёў — устанавіў даляр. Блізкі да рэкорду і еўра. І на фоне гэтага чыноўнікі ўсё часцей кажуць пра сітуацыю на валютным рынку. «Рэзкай дэвальвацыі не будзе, — загаварыла словамі свайго папярэдніка Пракаповіча старшыня Нацбанка Надзея Ермакова. — Але не выключана плаўная дэвальвацыя».

«Нічога не павінна адбыцца, — паўтарае як мантру Лукашэнка. — Мы павінны прытрымлівацца такога курса, які абяцалі народу». Пасля такіх словаў многія беларусы пацягнуліся да абменнікаў. Якія статыстычныя паказчыкі сведчаць пра тое, што іх насцярога небеспадстаўная?

### Інфляцыя

На сярэдзіну верасня рост цэнаў з пачатку года перавысіў 15,5%, прычым за жнівень цэны выраслі найбольш. Мэта ўрада — 19—22% — выканальная толькі ў тэорыі.

### Гандлёвы баланс

Пасля таго як звышпрыбытковы экспарт раствaральнікаў, зробленых з расійскай нафты, быў спынены, поспехі беларускай эканамічнай мадэлі не выглядаюць так упэўнена. У ліпені станоўчае гандлёвае сальда скарацілася за месяц у 17 разоў, склаўшы ўсяго $23 мільёны, і тое ад гэтай сумы трэба адняць мыты на нафтапрадукты, якія Беларусь вярнула ў расійскі бюджэт.

### Запавольванне росту эканомікі

Як бы ні хацелася ўраду выканаць указанні Лукашэнкі і пазбегнуць ягонага гневу, гэта наўрад ці ўдасца. Рост ВУП, які выстаўляецца ледзь не галоўным індыкатарам паспяховасці беларускай эканомікі, па плане мусіў скласці за год 5,5%. Але за студзень-жнівень у параўнанні з мінулым годам рост склаў усяго 2,5%, змяншаючыся месяц за месяцам.

### Колькасць рублёў у звароце

Што працуе бездакорна — дык гэта грашовы станок. За апошнія пяць месяцаў колькасць рублёў у эканоміцы пабольшала на 30%, а колькасць наяўных грошай — на 43%. Ні пра якую строгую манетарную палітыку казаць не даводзіцца.

### Рост заробкаў

Афіцыйны сярэдні заробак у краіне ў жніўні дасягнуў $490, павялічыўшыся з часоў апошняй дэвальвацыі на 75%. Менавіта на ўзроўні $500 беларуская эканоміка спатыкнулася паўтара года таму. І тая сітуацыя нічаму не навучыла ўладу. Пагоня за заробкам працягваецца дагэтуль.

**ЯМ**

# Ганна Прохараўна філігранна папала ў шчыліну тры разы

Піша **Сяргей Гудзілін** з выбараў у вёсцы.



Вёска знаходзіцца паміж балотам з боку Барысава і лесам з боку Жодзіна. Раней была крама і школа — зачынілі.

**Імёны я не запісваў — па-мойму, гэта не важна »**

У вёску Заручча, што на мяжы Барысаўскага і Смалявіцкага раёнаў, можна заехаць і памылкова — указальнікаў на гэты населены пункт па дарозе няма. У нядзелю тут таксама выбары. Да бліжэйшага выбарчага ўчастка больш за 10 кіламетраў, і таму галасаванне ідзе ў хатах вяскоўцаў.

Жыве ў Заручччы, па спісах выбарчай камісіі, 74 чалавекі. Яшчэ столькі — дачнікі. Раней былі крама і школа — зачынілі.

«Точна будзем тут да вечара», — неяк прырэчана гаворыць Коля, беручы ў рукі невялікую светлую скрыню са шчылінай зверху.

«А яшчэ гэтыя грыбнікі...» — сказаў іншы член выбарчай камісіі. Як яго клічуць, я не спытаў, а бэйдж з участка хаваўся пад курткай. Дый не важна гэта. Яго я назаву проста — V.

Коля і V — члены выбарчай камісіі. Працуюць леснікамі. Прыехалі праводзіць галасаванне на старым «козліку» з кузавам.

V трохі вышэйшы за Колю. Ну і, відаць, статус у яго вышэйшы ў лясгасе — ён носіць бюлетэні. У кабіне машыны таксама была і ахова — міліцыянт з барысаўскага райаддзела. Іванавіч — клікалі яго па бацьку ўсе. З вусамі. Таксама просты міліцыянт-участковы, як і простыя леснікі члены выбаркама — светлы, трохі лысаваты, значкі, пісталет. Апошні раз прыязджаў у гэтую вёску вясной, калі пасынак аднаго дзеда заснуў п'яны і згарэў разам з хатай.

У неспадзяванцы чытаюць маё пасведчанне, раяцца са старшынёй сваёй камісіі.

Старшыня, відаць, тэлефануе наверх, і мужыкі-леснікі нарэшце дапускаюць мяне хадзіць з імі па вёсцы. «А то хто знае, што ты там робіш. К нам на участак з Чэхіі прыехалі. Што ім у нас нада?» — з роўнай інтанацыяй сказаў V.

Першы дом. Сям'я пенсіянераў Сацукоў — дарэчы, самае папулярнае прозвішча ў вёсцы. Гаспадар Віктар уважліва чытае праграмы кандыдатаў. Пра іх ён чуе першы раз.

«Віктар раней за савецкую ўласць мог парваць», — сказаў мне V, калі мы заходзілі ў хату.

Відаць, гэта праўда, бо ў сенцах вісіць палітычная мапа свету з СССР. Пажоўклая і з дзіркамі. Прагаласаваў. Гаспадыня, не выходзячы з кухні, крыкнула праз сцяну, што байкатуе выбары, бо за каго б ні галасавалі — зачыненую краму ў вёсцы ніхто не адчыняе.



Муж клапатліва патрымаў жончын бюлетэнь, яна нешта чырканула. Коля па-рыцарску падставіў на калене скрыню: +1.




Шыльда з выбарчай акругі дзіўным чынам апынулася ў хляве аднаго з вяскоўцаў.

Лідзія — 82-гадовая пенсіянерка і жыве адна. Не ведае, як будзе зімаваць, бо на вуліцы не гарыць ліхтар.

Тлумачэнне таго, навошта да яе прыйшлі мужыкі са скрыняй, пачалося пасля паўгадзіннага ляманту ў бок адміністрацыі і асабліва электрыка Міравовіча. Але V сказаў, што яго звольнілі за гарэлку. Лідзія не ведала, за каго галасуе, сказала, каб ёй паказалі ў бюлетэні на маладога — «хай ён будзе».

Ідзём далей. Пятровіч чакаў мужыкоў са скрыняй і спрабаваў злавіць хоць адзін канал на сваім тэлевізары.

«Нешта піша: нет сігнала», — кажа ён Колю. «Дык у цябе антэна не падключана», — кажа Коля, ставіць скрыню для хатняга галасавання на стол і падключае штэкер. На экране адразу з'яўляецца карцінка з ЦВК — прамое ўключэнне з прамежкавымі вынікамі па яўцы на гэтых выбарах. Гук зашкальвае. Пятровіч, як той вандал, выдзірае з разеткі шнур: «Хай не мяшаюць. Дзе тут пісаць?» У Пятровіча ёсць хворая жонка, якая не ходзіць дый увогуле не хацела адрывацца ад сваіх спраў дзеля выбараў. «Ну нада жісполніць свой гражданскі доўг», — сказаў V. Пятровіч з Колем пайшлі ў іншы пакой. Муж клапатліва патрымаў жончын бюлетэнь, яна нешта чыркanula. Коля неяк па-рыцарску падставіў на калені скрыню: +1. Кароткую размову пасля галасавання сканчаюць пералікам праблем: грошай няма, чыноўнікаў не відаць, яблыкаў у гэтым годзе не было. «Ну, дзед, будзем жывы. Тэлевізар у цябе працуе — усё нармальна», — іранічна гаворыць V, і мы выходзім.

Вяртаемся назад. Вуліцы ў Заручччы літарай Т. Ідзе дождж. «Можа, пакет трэба было ўзяць? Нешта паплыла гэтая пломба», — кажа Коля і цярэбіць мокры ліст паперы, які закрывае шчыліну скрыні, з подпісамі чальцоў камісіі. Відаць, што Коля ўжо стаміўся цягаць гэты драўляны куб з пустой прасторай унутры. Дый бюлетэні не асабліва яе напаўняюць — людзей галасуе няшмат. Нехта на працы, нехта пайшоў у грыбы, нехта ўвогуле, як зазначыў V, невядома куды дзеўся.



Гаспадыня, не выходзячы з кухні, крыкнула праз сцяну, што байкатуе выбары, бо за каго б ні галасавалі — зачыненую краму ў вёсцы ніхто не адчыняе.

У кожных сенцах нас сустракае медунічны пах восеньскіх яблыкаў. Частуемся ад хаты да хаты рознымі гатункамі.

Пенсіянеры Ганна Прохараўна і Дзмітрый Дзмітрыевіч таксама нас чакалі. Нават акуляры падаставалі. Ганна — гаспадыня ва ўсім, над мужам таксама. Уважліва чытае плакат з прозвішчамі двух кандыдатаў. Імёны я не запісваў — па-мойму, гэта не важна. «Гэты будзе», — сказала Ганна. І старанна распісалася за атрыманыя бюлетэні тры разы. Пасля гэтак жа старанна праставіла крыжыкі ў трох бюлетэнях — за сябе, мужа і хворую маці... Паклала гэтыя тры бюлетэні стосам і склала ўдвая. «Стоп, стоп... Раскладзіце. А то скажуць потым, што мы самі туды накідалі...» — узбурыўся V, і Ганна Прохараўна філігранна папала ў шчыліну тры разы.

Я не ўпэўнены, што гэта было парушэнне выбарчага заканадаўства з боку Ганны Прохараўны ці V. Так проста прасцей, ну і тым больш няважна — так у той момант думалі ўсе. Ганна захавала свой статус-кво перад мужам — у іх сям'і яна займаецца палітыкай. Я не пярэчыў. Тэлевізар таксама яна выбірала, але казала пра гэта ахвотней, чым пра свой выбар будучага дэпутата парламента. Бо тэлевізар — для сябе, а дэпутат — ну ён як бы і не зусім для сябе... для краіны.

Коля і V працягваюць ісці па немалой вёсцы. Стракатыя дамкі дачнікаў чаргаваліся з шараватымі хатамі вяскоўцаў.

Побач усур'ёз біліся хлопчыкі школьных гадоў. «Зараз мянта паклічам», — сказаў V. Біліся далей. Участковы Іванавіч хадзіў у гэты час па хатах — збіраў апошнія навіны на падуладным яму ўчастку. Ля скрыні Іванавіч бываў толькі калі Коля і V пераязджалі з аднаго канца вёскі ў іншы — каму тут трэба гэтая скрыня? Сустракаем падпітага, бруднага дзядзьку. V корпаецца ў лістах з адрасамі і імёнамі. «Тут прапісаны? Як зваць? Выбары». «Фралоў Яўген Іванавіч, 1952 года нараджэння, вуліца Школьная, 4..., тры хуліганкі і ЛТП», — па-дыктарску прамовіў участковы.

«Паныласць усё гэта», — падумаў я. І не праз выбары.

Паныласць не дазволіць укруціць лямпачку ля хаты Лідзіі, не дазволіць адчыніць краму для гаспадыні былога камуніста Сацука, яна нават не дасць паставіць указальнік у гэтае прыхаванае ў лесе Заручча. Як, зрэшты, не зробіць гэтага і дэпутат, якога заручанцы выбралі.

Увага: некаторыя імёны ў гэтым тэксце зменены. Любое супадзенне з іншымі ў дзень выбараў цалкам магчымае.

# У Гродне надрукавалі школьныя сшыткі з вершамі Быкава




Цяпер **забіраюць з крамаў наклад**: вершы знайшлі ў інтэрнэце, гэта іншы Быкаў.

Гродзенская друкарня да навучальнага года выпусціла серыю сшыткаў з вершамі вядомых беларускіх аўтараў. Фатаграфію аднаго з іх на сваім сайце размясціў блогер Павел Берасneў. Дзіўна, але разам з класічнымі радкамі Купалы, Коласа і Багдановіча ў серыі апынуўся і сшытак з чатырохрадкоўем Васіля Быкава.

За такое «ўнікальнае» выданне просяць усяго 5 тыс. рублёў. Хоць беларусаў яшчэ ў школе вучылі, што пісьменнік займаўся толькі прозай, ды і сам Быкаў у адным з інтэрв'ю заяўляў, што ніколі не пісаў вершы. У чым жа справа?

Калі ўвесці радкі верша, напісаныя пад партрэтам Васіля Быкава, пошукавік выдае старонку на расійскім сайце «Стихи.ру».

Аўтар гэтых радкоў сапраўды Васіль Быкаў, аднак не вядомы беларускі пісьменнік XX стагоддзя, а малады паэт, верагодна, з Расіі. На гэтым сайце Быкаў размяшчае вершы з 2005 года, апошні датаваны студзенем 2012 (беларускі Васіль Быкаў памёр у 2003). Аўтар таксама піша рэцэнзіі на творчасць іншых паэтаў, актыўна ўдзельнічае ў абмеркаваннях.

«Гэта глупства. Ніякіх вершаў, тым больш па-расейску, Васіль Уладзіміравіч ніколі не пісаў», — сказала «Нашай Ніве» ўдава пісьменніка Ірына Міхайлаўна Быкава.

Нядаўна падобным чынам «адзначыліся» і ў Мінску, прыпісаўшы верш Якуба Коласа Міколу Гусоўскаму на бігбордах, прысвечаных Году кнігі.

Радыё «Свабода» паразмаўляла з вытворча-тэхнічным аддзелам друкарні:

«Залез малады нявопытны хлопчык у інтэрнэт, набраў «Васіль Быкаў», і здарылася такая прыкрая памылка. Наклад вымаецца з гандлю».

**ЮУ**

# На будоўлі Мінска запрашаюць 500 рабочых з КНДР

**Першыя 30 прыедуць** на гэтым тыдні.

У Мінску дэфіцыт кадраў на будаўнічых аб'ектах папаўняецца за кошт студэнтаў, спецыялістаў з рэгіёнаў і іншых краін; рэалізуецца спецыяльная праграма, якая ўжо дала станоўчы вынік.

Па выніках 9 месяцаў сёлета на будпляцоўкі прыцягнута каля 2 тысяч чалавек за кошт розных рэсурсаў. Пра гэта паведаміў генеральны дырэктар ДВА «Мінскбуд» Мікалай Мілашэўскі на аператыўнай нарадзе ў Мінгарвыканкаме.

Усяго на аб'ектах ДВА «Мінскбуд» з улікам прыцягнутых спецыялістаў сёння працуюць больш за 17,2 тысяч чалавек.

«У нас ужо працуюць 10 спецыялістаў з Узбекістана, будзем прыцягваць яшчэ, — адзначыў М. Мілашэўскі. — У стадыі заключэння дагаворныя абавязацельствы з Карэйскай Народна-Дэмакратычнай Рэспублікай. Плануем, што першыя 30 будаўнікоў з гэтай краіны прыйдуць на мінскія будоўлі ўжо на гэтым тыдні».

Усяго ў сталіцу могуць прыехаць да 500 карэйскіх будаўнікоў.

**«Мінск-навіны»**



**Гмахі ў цэнтры Пхеньяна будуюць без будаўнічых кранаў. У краіне пераважае ручная праца вайсковых будаўнікоў. На фота: разбор старога будынка.**

# «Як стаць прэзідэнтам Беларусі. Дапаможнік для чайнікаў»

**Яўген Ліпковіч** напісаў кнігу і рыхтуе наступныя.

Блогер расказаў «Нашай Ніве», чаго чакаць ад свайго зборніка апавяданняў «Дзевяць».

«Усе падзеі кнігі адбываюцца ў Беларусі, часам у вельмі аддаленай будучыні. Такой фантастыкі ў Беларусі яшчэ не было».

Кніга, жартуе аўтар, напісаная «на расейскім дыялекце беларускай мовы». «Палітыкі» ў зборніку няшмат. Адзіным трошкі палітызаваным тэкстам, па словах Ліпковіча, будзе апавяданне «Люстэрка».

«Гэтыя апавяданні напісаныя з гумарам і для адпачынку. Нам не хапае забаўкі — давайце дадзім сэксу, драгзу і рок-н-рола! Хочацца ўцячы ад штодзённых «Дажынак». Давайце забаўляцца!»

Зборнік «Дзевяць» не выйдзе на паперы. 30 верасня, у дзень народзінаў аўтара, кніга з'явіцца на сайце электроннага выдавецтва BYBOOKS.

«Маёй наступнай кнігай будзе «Як стаць прэзідэнтам Беларусі. Дапаможнік для чайнікаў», — смяецца блогер.

**Юрась Ускоў**


**Міхаіл Грабоўскі (справа) толькі што заключыў кантракт.**

# Міхаіл Грабоўскі ў ЦСКА

**Наймацнейшы хакеіст Беларусі** папоўніў легендарны клуб.

У Канадзе і ЗША лакаўт у Нацыянальнай хакейнай лізе. Кіраўніцтва лігі і прафсаюз хакеістаў не могуць пагадзіцца наконт размеркавання прыбыткаў. Камісіянер НХЛ Гары Бэтмэн прапануе знізіць долю хакеістаў у прыбытках да 43%, а самі гульцы настойваюць на 54%.

Вось і вымушаны хакеісты шукаць працу ў Еўропе. Міхаіл Грабоўскі, які гуляе за «Таронта», заключыў кантракт з маскоўскім ЦСКА. А вось з мінскім «Дынама» нешта не зраслося. Кажуць, што клуб не пацягнуў аграмадную страхоўку нашай зоркі.

**ЗП**



СТАСЕЛЬКА КІРЫЛ ІГАРАВІЧ. ПАШП. МР2118325 ВЫДАДЗЕНЫ ЦЭНТРАЛЬНЫМ РУУС МІНСКА

# Анжаліку Агурбаш замяніла журналістка Улевіч

**Раней яна працавала ў «Камсамольскай праўдзе ў Беларусі».**

Гучны развод спявачкі Анжалікі Агурбаш з мужам — уладальнікам кампаніі «Мартадэль» Мікалаем Агурбашам — скончыўся скандальным падзелам маёмасці.

Па словах блізкіх спявачкі, знаходзячыся ў стане поўнай скрухі, Анжаліка паляцела ў Францыю. Яе тэлефон адключаны — размаўляць Агурбаш ні з кім не хоча.

А вось яе былы муж развод з жанчынай, з якой пражыў у шлюбе 10 гадоў, падобна, перанёс лёгка. У жыцці 58-гадовага Мікалая Агурбаша ўжо з'явілася жанчына, якая стала яму надзейнай апорай і падтрымкай.

Як расказаў чалавек з блізкага атачэння бізнэсмэна, не так даўно ў кампанію «Мартадэль» на працу паступіла 40-гадовая Вольга Улевіч. Жанчына была прынятая на пасаду віцэ-прэзідэнта па іміджы і рэкламе кампаніі.

Цікава, што да нядаўняга часу на гэтай пасадзе ў «Мартадэлі» лічылася якраз сама Анжаліка Агурбаш.

«Мікалай Георгіевіч ставіцца да яе вельмі цёпла, ён нават хацеў, каб Улевіч напісала кнігу пра творчасць яго жонкі і пра іх сямейнае жыццё. А пасля разводу з Анжалікай зблізіўся з ёй яшчэ больш», — сказала ананімная крыніца ў кампаніі.


Вольга Улевіч і Мікалай Агурбаш.

Свае адносіны з Мікалаем Агурбашам Вольга ахарактарызавала як «дзелавое сяброўства». Аднак расшыфраваць гэты тэрмін выразна сама не змагла.

Lifeshowbiz.ru


АНДРЭЙ ЛЯНКЕВІЧ

In memoriam

## Хрысціна Шацікава

21 верасня ў магілёўскім хоспісе памерла 36-гадовая грамадская актывістка Хрысціна Шацікава. Год назад у яе выявілі рак лёгкіх. У ліпені сёлета Хрысціна звярнулася па дапамогу, але было ўжо надта позна.

Шацікава стала вядомай пасля Плошчы-2006. Яна была адной з кіраўніц палатачнага гарадка. Яе затрымлівалі, але адпусцілі, бо Хрысціна мела двух малых сыноў.

Шацікава была неабыякавай. Яна стаяла першай пад судамі, калі там адбываліся палітычныя працэсы. Прыходзіла ў магілёўскую турму, каб дазнацца, як справы ў Мікалая Статкевіча і Андрэя Саннікава. Дапамагала Артуру Фінькевічу, «хімія» якога была ля дома Шацікавай у Магілёве.

Была Шацікава і на Плошчы-2010, дзе яе збілі так, што давялося перавозіць з Акрэсціна ў цывільную бальніцу.

Пахавалі Хрысціну ў вёсцы Дубінка (Магілёўскі раён). У яе засталіся сыны Ягор (16 гадоў) і Дзяніс (14).

ЗП

# Беларус спрабаваў перабегчы ў ЗША з Канады па Ніягарскім вадаспадзе

Наш суайчыннік быў затрыманы амерыканскімі памежнікамі ў часе спробы перайсці на тэрыторыю ЗША па чыгуначным мосце.

Гэта адбылося раніцай 19 верасня на мосце, які злучае ЗША і Канаду ў раёне Ніягарскага вадаспада.

Памежнік убачыў па відэаманіторы чалавека, які бег па масце ў Бафала. Парушальнік быў затрыманы адразу пасля таго, як перасек мост.

Паведамляецца, што 42-гадовы грамадзянін Беларусі не меў дазволу на знаходжанне ў Канадзе. Цяпер ён чакае разгляду сваёй справы ў эміграцыйным судзе ў Бафала.

ЛМ





Перавод стрэлак

## Зімовы час не вернецца

**«Пераход на зімні час нямнога дае эканоміцы», — лічыць Лукашэнка. У зімовы перыяд у Мінску будзе гадзіна розніцы з Вільняй і дзве — з Варшавай.**



Камертон Сяргея Ваганава

## Выкраданне Еўропы

Апошнім часам розныя афіцыйныя асобы ўсё часцей гавораць пра падабенства Мінска на сучасны еўрапейскі горад. Не хапае толькі брэнда, што пазнаваўся б ва ўсім свеце. Маўляў, як Парыж, які пазнаюць не толькі па Эйфелевай вежы, але і па «парыжскім сняданку» — каве з круасанамі...

Пра каву з круасанамі я пачуў, гледзячы ток-шоу АНТ «Адкрыты фармат». Яго ўдзельнікі шукалі адказ на пытанне, ці ёсць у Мінска свой твар. З падтэксту вынікала — еўрапейскі. У нейкі момант вядучы нібыта з жалем паведаміў, што ў Мінску мала засталося жыхароў, якія помняць горад 1940-х гадоў. Я чакаў, што вось-вось ён з'явіцца, адзін з гэтых выкапняў. Не дачакаўся. І тое вельмі шкада, бо насамрэч еўрапейскім Мінск выглядаў менавіта ў 40-х, асабліва з даху напалову разбуранага дома на Маскоўскай, у якім пачыналася маё мінскае старажыхарства.

Услед за старэйшымі хлопцамі мы любілі ўзлазіць на гэты дах і пад пагрозай праваліцца праз саржавелае, вострае па абадраных краях, жалеза, глядзець у далечыню, што танула ў цагляна-пыльнай, падсвечанай сонцам, смузе. Нічога, здавалася, вышэйшага за наш дах у горадзе не было, бо менавіта адтуль адкрываўся над жахлівай пустэчай крушняў ягоны непаўторны абрыс — Дом урада, Чырвоны касцёл, Оперны тэатр, саборы са званіцамі на плошчы Свабоды...

Так, ён быў еўрапейскім, той Мінск, як і большасць зруйнаваных вайной гарадоў Еўропы. Але пакуль немцы адбудоўвалі Дрэздэн, вугорцы — Будапешт, а палякі — Варшаву, Мінск, губляючы апошнія рысы сваёй правінцыйна-гістарычнай еўрапейскасці, паступова ператвараўся ў кадэбэшную казарму, аздобленую сталінскім ампірам...

З цягам часу, аднак, і казарма, калі ў ёй нараджаюцца дзеці, поўніцца жывым чалавечым зместам. Толькі змест гэты сёння зусім іншы.

Паслухаўшы не «дзяцей», а «ўнукаў», я даведаўся, што ў Мінску няма шопінгу, ад чаго ён не можа лічыцца еўрапейскім; што ў горада няма гісторыі, і таму яе трэба прыдумаць; што іншаземцаў цікавіць найперш будынак КДБ, каб сфатаграфавацца побач і адчуць хваляванне смяротнай рызыкі; што тэрмінова патрэбен брэнд кшталту «мінскія круасаны»...

**Насамрэч еўрапейскім Мінск выглядаў менавіта ў 1940-х**

Пачуўшы пра «круасаны», я накіраваўся на вуліцу Савецкую, шукаючы поглядам шыльду «Хлеб». У маім дзяцінстве там прадавалі «жаўрукоў» — мяккую са скарыначкай здобу ў выглядзе птушкі, якую спрадвек выпякалі мінскія хлебапёкі. Падносячы да рота, я доўга не ведаў, з чаго пачынаць: з хвосціка ці з дзюбкі, над якой чарнелі дзве разынкі — вочкі...

Замест птушкі, да мяне падляцеў малады чалавек у модным гарнітуры, з рацыяй праз плячо, адчыніў без дазволу правую дзверцу: «Вы не кліент нашага банка?» «Не-не...» — «Каціце далей!..»

Далей — гэта наўпрост у прорву пад тым, што зневажальна працягвае звацца плошчай, ды яшчэ Незалежнасці...

Што ж адбылося з нашым горадам і з нашым жыццём? Быццам бы выдрапаліся з камуністычнай прорвы, а потым са страху пакацілі ў адваротны бок, хай сабе знешне іншы — без «жаўрукоў», затое з банкамі і шклянымі вежамі з агромністымі літарамі на дахах кшталту SILVER TOWER...

Так, многім здаецца, што дастаткова ўзняць над горадам падобныя вежы і літары, скрасці, так бы мовіць, знешнія рысы сучасных еўрапейскіх гарадоў, каб і яго лічыць еўрапейскім.

Але еўрапейскім магчыма лічыць толькі той горад, у якім жывуць еўрапейцы. Не толькі па геаграфічным месцы знаходжання ў прасторы, але найперш па ментальнасці і адносінах да каштоўнасцяў жыцця.

Вось гісторыя, што адбылася ў адным са шведскіх гарадоў, на жаль, забыўся, у якім. Не ведаю, ці ўздымаюцца над ім хай-тэкаўскія збудаванні, але ёсць там даўні, больш за стагадовы, вакзал. З цягам часу ён стаў не толькі цесным, але і вельмі шумным. Гараджане закідалі мэрыю скаргамі, і мэрыя вырашыла пабудаваць новы вакзал, а стары знесці. І раптам высветлілася, што гараджане гэтага не хочуць. Раптам высветлілася, што стары вакзал для іх — не проста будынак, а перакрыжаванне жыццёвых шляхоў і празлівых успамінаў... Карацей кажучы, мэрыя, не зважаючы на выдаткі, пабудавала новы вакзал пад старым. Ведала, што знос старога вакзала гараджане ёй не даруюць...

А дзе ж ён, старадаўні мінскі вакзал? Дзе першая гарадская электрастанцыя, якая ў тыя ж 40-я пазбаўляла мінчукоў ад газовак? Дзе?..

Не, скрасці згаданую Еўропу не атрымаецца. Такая Еўропа мусіць толькі нарадзіцца.

Але ці народзіцца?

Ці народзіцца Еўропа ў горадзе, які моўчкі церпіць раны на сваім целе?

Ці народзіцца Еўропа ў горадзе, з якога канчаткова вытраслі душу..?

# «Дажынкі»: Як гэта было

Фатограф «Нашай Нівы» **Сяргей Гудзілін**, якому адмовілі ў афіцыйнай акрэдытацыі на «Дажынках-2012», усё ж выправіўся ў Горкі, каб на свае вочы пабачыць «свята хлебаробаў і ўраджаю». У парадныя зоны без акрэдытацыі не пускаюць, таму прыйшлося здымаць непарадныя.


Удзельнікі «Дажынак» фатаграфуюцца з пудзіламі дзікіх жывёл.



Праз дрэннае надвор'е хадзіць часам прыходзілася па драўляных насцілах.


Перадавікі «Жніва-2012» закружыліся ў танцах.


Дарога да некаторых прыбіральняў была няпростай.


На Дажынках у Горках можна было падаіць карову... цацачную.


На амерыканскіх «дажынках» людзі ходзяць у гумовых ботах, на нашых — на абцасах.


Гандлёвы стэнд Брэсцкага панчошнага камбіната.

# Крыкі дзяўчыны чулі, але ніхто не рашыўся выйсці

**Жорсткае забойства** ў Гомелі.

Трагедыя здарылася 20 верасня ў 00.30. 21-гадовую студэнтку Наталлю забілі за якіх дваццаць метраў ад дома. Дзяўчына вярталася з аўтобуснага прыпынка. Прайсці да пад’езда ёй заставалася два пралёты, як на яе накінуўся малады чалавек. Нападнік 102 (!) разы ўдарыў яе нажом. Нягле-дзячы на позні час, крыкі дзяўчыны чулі жыхары гэтага і навакольных дамоў. Але ніхто не рашыўся выйсці.

Наталля з сяброўкай вярталіся дадому на грамадскім транспарце. На адным з прыпынкаў у аўтобус увайшоў п’яны малады чалавек, які пачаў уважліва сачыць за дзяўчатамі. Наталля выйшла, сяброўка паехала далей. Менавіта яна апісала выгляд падазронага хлапца. І апазнала яго на відэа камеры назірання з прыпынку, дзе той заходзіў.

Падазраванага затрымалі дома ўжо а 16 гадзіне. Ім аказаўся 24-гадовы гамяльчук. Раней ён быў судзімы за наўмыснае нанясенне цяжкага цялеснага пашкоджання, якое пацягнула смерць. Ён адразу даў прызнальныя паказанні.

Як паведамілі ў Следчым камітэце, нейкі час таму малады чалавек апынуўся з дзяўчынай у адной кампаніі. Наталля дазволіла нейкія кпіны на яго адрас, тады ён сцярпеў абразу, але затаіў жаданне адпомсціць. А тут падвярнуўся такі «зручны» момант, калі выпадкова сустрэў у аўтобусе сваю «крыўдзіцельку»...

Наталля была студэнткай 4 курса біялагічнага факультэта Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Скарыны. «У школе яна вучылася ў гуманітарным класе — больш мовы вывучала. А паступаць надумала на біяфак — у 11 класе займалася з рэпетытарам па гэтым прадмеце, — кажа Сяргей, школьны сябар дзяўчыны. — Аптымісткай была, адкрытым чалавекам. Любіла жыццё, кампаніі, дыскатэкі. Любіла рызыкаваць: экстраверт і халерык па натуры. Яркая асоба. Магла і адпор даць».

Ён кажа, што ведае чалавека, якога затрымалі па падазрэнні ў забойстве. Гэта сябар роднага брата Наталлі. Ён жыве на адной вуліцы з загінулай. Па словах Сяргея, затрыманы быў судзімы раней за смерць айчыма.

У двары забітай — пяць шматпавярховікаў. «Наталля крычала. На крыкі выскачыла нейкая дзяўчына. Але яна толькі ўбачыла, як злачынца збягаў. Але каб і раней, то што яна сама магла б зрабіць супраць яго з нажом?»

Сяргей адзначыў, што Наталля хацела замуж. Яна пасварылася са сваім маладым чалавекам. Але апошнім часам у іх нібыта ўсё наладжвалася. Марыла нарадзіць дзіця.

На пахаванне дзяўчыны прыйшло шмат людзей: студэнты, сябры, універсітэцкія выкладчыкі, класная кіраўніца са школы. Сотні каментарыяў са словамі спачування пакідаюць людзі на старонцы дзяўчыны ў сацыяльнай сетцы і праз некалькі дзён пасля трагедыі.

**Кастусь Матушыч**

**Забілі і абрабавалі студэнта**

Два месяцы таму ў Гомелі быў забіты 19-гадовы студэнт. Суседзі пачулі ў пад’ездзе моцны пах газу і выклікалі аварыйную службу. У кватэры знайшлі цела маладога чалавека, былі адкрытымі ўсе фаеркі газавай пліты. Падазраваных затрымалі. Імі аказаліся аднагодак студэнта і непаўналетні хлопец. Яны забілі свайго знаёмага з мэтай абрабаваць кватэру. Частку скрадзеных рэчаў знайшлі ў іх пры затрыманні.



Наталля хацела выйсці замуж і нарадзіць дзіця.

**«Яго ў бронекамізэльцы прывозілі»**

Жыхарка дома, побач з якім адбылося забойства, апісала ў сацсетках следчы эксперымент. «Ён [падазраваны] паказаў, што і як рабіў. Я назірала за гэтым з акна. Як жа жорстка ён гэта паказваў — я не магла слёзы стрымаць. А ён, падонак, стаяў са схіленай галавой. Людзі, што назіралі збоку, было кінуліся да яго, але спецназ перагарадзіў дарогу. На яго нават бронекамізэльку надзелі…» Іншы відавочца адзначыў, што правадзілі следчы эксперымент акурат у той час, калі ўсе паехалі на пахаванне самой Наталлі.

## Пенсіянер год не можа атрымаць кампенсацыю

Асуджаны ж за гэты час **паспеў адбыць пакаранне**.

У лютым 2011 жыхара сталіцы Станіслава Федаровіча на пешаходным пераходзе збіла аўто. Мужчына атрымаў страсенне мозгу, закрытую чэрапна-мазгавую траўму, вывіх пляча, пераломам левага сцягна. Пенсіянер кажа, што кіроўца «Хундаі», які на яго наехаў, не аказаў ніякай дапамогі. А «хуткую» і ДАІ выклікаў толькі відавочца здарэння.

Станіславу Федаровічу і сёння аддае тая аварыя: у сцягне стаіць металічная пласціна і чакае новую аперацыю. Праз траўму згубіў працу. А яму 66 гадоў.

Крымінальную справу завялі па артыкуле «Парушэнне правілаў дарожнага руху альбо эксплуатацыі транспартнага сродку». Суд адбыўся ў жніўні 2011. Кіроўца «Хундаі» сваю віну прызнаў часткова. Так, збіў. Але заявіў, што пешаход выйшаў на дарогу перад самай машынай метраў за восем ад перахода. Суд палічыў яго сведчанні хлуслівымі: прыгаварыў мужчыну да 1 года абмежавання волі ўмоўна з пазбаўленнем права кіраваць аўтамабілем на 3 гады. Суд прыняў да ўвагі, што ў яго маецца малалетняе дзіця. Гэта стала падставай для больш мяккага пакарання. А суму кампенсацыі маральный шкоды (разам з працэсуальнымі выдаткамі пацярпелага) вызначылі ў 9 мільёнаў 950 тысяч рублёў. Пенсіянер сцвярджае, што яго сям’я выдаткавала значна большую суму на лячэнне. Патрабаваў жа ён 30 мільёнаў.

Згодна з пастановай суда, асуджаны павінен быў цягам месяца выплаціць грошы. Але гэтага не адбылося ні праз месяц, ні праз два. У снежні 2011 у яго канфіскавалі аўтамабіль «Хундаі Лантра». І праз два месяцы аўто выставілі на продаж, папярэдне ацаніўшы яго ў 10 млн рублёў.

На беларускім аўтарынку такая мадэль каштуе ад 1 да 3 тысяч даляраў. Але і пасля пераацэнкі да 8 млн рублёў машыну так і не прадалі. Яе прапанавалі забраць Федаровічу як кампенсацыю. Ён адмовіўся: стан «Хундаі» дрэнны.

**Сяргей Макарэвіч**



## Сцісла

**Спецназавец забіў сужыцельку**

Жыхарка Гродна не пускала п’янага сужыцеля ў кватэру. Калі ж ён трапіў унутр, схапіўся за нож. У выніку нанёс некалькі ўдараў у грудзі і жывот. Збіў і яе непаўналетняга сына. Падазраванага, якім аказаўся спецназавец міліцыі, затрымалі. Ён знаходзіцца пад вартай.

**Напаў дзік**

У Пінскім раёне механізатары прыбіралі кукурузу, калі з яе выскачыў дзік. Напужаны тэхнікай, звер кінуўся ў бок вёскі Маладзельчыцы. Ён бег праз падворкі, заскочыў у сенцы, дзе знаходзіўся вясковец. Дзік кінуўся на яго. У мужчыны пашкоджаны ногі і спіна. Жыццёва важныя артэрыі не зачэпленыя, хаця ён і страціў шмат крыві. Дзік, нікога больш не зачапіўшы, збег у лес.

**Дорна будуць судзіць**

У Следчым камітэце завершана расследаванне крымінальнай справы старшыні Іудзейскага рэлігійнага аб’яднання Юрыя Дорна. Цяпер ён і яго адвакат знаёмяцца з матэрыяламі. Дорну прад’яўлена абвінавачванне па некалькіх артыкулах Крымінальнага кодэкса: атрыманне хабару ў асабліва буйным памеры; перавышэнне ўлады ці службовых паўнамоцтваў; ухіленне ад выплаты сум падаткаў, збораў, якое пацягнула прычыненне шкоды ў асабліва буйным памеры; крадзеж; знішчэнне, пашкоджанне або ўтойванне дакументаў, штампаў, пячатак, крадзеж бланкаў; службовы падлог.

**Загінуў веласіпедыст**

У Пружанах веласіпедыст ехаў па праезнай частцы, калі МАЗ зачапіў веласіпед за багажнік. Раварыст упаў і ўдарыўся галавой аб асфальт. Памёр на месцы. Распачата крымінальная справа.

**Кантрабанда на 5 мільярдаў**

Брэсцкія мытнікі ў пункце пропуску «Казловічы» затрымалі кантрабанду, якая перавысіла 5 мільярдаў рублёў. Згодна з дакументамі, у аўтацягніку з Галандыі ў Расію перавозілі 7 тон прыставак. Пры ўзважванні лічба была значна большай — 12 тон. Лішніх 1019 незадэклараваных прыставак канфіскавалі.

**КМ**

# Placebo згадалі ў Мінску «дэмакратыю» і «фарс»

Сусветныя зоркі **феерычна выступілі** ў Палацы спорту 22 верасня.

За дзень да выбараў у Мінску адбыўся адзін з самых цікавых канцэртаў года. У Палацы спорту іграў брытанскі гурт Placebo — рэальныя лідары сусветнай альтэрнатыўнай музыкі, а не якія-небудзь «героі ўчарашніх дзён», што часцяком ездзяць да нас з «апошнім» турам.

Палац быў поўны. Аўдыторыя пераважна — вельмі маладая. Рэдкі выпадак: многія хлопцыдзеўкі прыйшлі на канцэрт паслухаць не хэдлайнераў, а групу разагрэву, магілёўскіх Akute. «Добры вечар, Менск! Мы — гурт Akute і спяваем для вас пабеларуску», — павітаў публіку вакаліст Раман Жыгараў. Такога вітання Палац спорту не чуў вельмі даўно. У адказ узняўся шквал апладысментаў.

Беларускамоўны гурт спявае, па вызначэнні крытыкаў, «ідэальны заходні поп-рок». Хлопцы настолькі запальныя і так «трапілі» ў сучасную моладзь, што нават тыя, хто пабеларуску слаба разумее, вучаць іх тэксты. У супольнікі іх абралі самі брытанцы: перад канцэртам Placebo ладзілі конкурс сярод мясцовых камандаў. І хэдлайнеры не пралічыліся: магілёўцы нават скрозь шчыльны гук апаратуры чулі, як слухачы ім падпяваюць.

«Мы некалькі хвілінаў гаварылі з Placebo за сцэнай. Гэта вельмі сціплыя прыязныя хлопцы. Яны нават сказалі, што ім спадабаўся наш выступ», — кажа Раман Жыгараў. Высветліць, ці ведаюць яны што пра Беларусь, проста не было часу. Адзінае, перадалі брытанцам «падаруначкі, з якіх яны змогуць штосьці зразумець пра нашу краіну»: майкі з надпісамі. З якімі — Раман сказаць адмовіўся.




Placebo давялі публіку да экстазу. Самыя разняволеныя фанаткі пачалі сцягваць з сябе лішнюю адзежу. І новая мода — здымаць сваіх куміраў на тэлефон. «Не ведаю, куды ў звычайным жыцці дзяюцца ўсе гэтыя акселераты, але на танцполе яны становяцца перад сцэнай з айфонамі. За іх галовамі мала што відаць», — расказаў адзін з гледачоў. Гучанне, паводле яго словаў, таксама не было ідэальным: «Можа, цяпер на канцэртах звычка такая: першы гурт іграе ціха, чысценька, як з кампакта, а пасля выходзяць хэдлайнеры і ўрубаецца такі гук, што, калі словаў не ведаеш, ні халеры не зразумееш».

Найболып уразіла светлавое шоу. За спінамі музыкаў успыхвалі на чырвоных і белых экранах словы farce (фарс) і democracy (дэмакратыя). Няўжо брытанскі гурт так тонка ведае беларускую сітуацыю, што зрабіў спецыяльны падарунак для перадвыбарчага Мінска? Не, гэты нумар, па словах Рамана Жыгарава, суправаджае Placebo на ўсіх канцэртах тура. Гурт проста прафесійна рабіў шоу, як рабіў бы ў Вільні ці ў Будапешце. Іх пасланні былі максімальна ўніверсальныя, зразумелыя ўсім еўрапейцам. Проста беларускія парламенцкія выбары супалі з канцэртам.

**Сяргей Мікулевіч**

**In memoriam**

## Генадзь Асташонак

**Унікальнаму рэстаўратару**, сябру суполкі «Пагоня» было 57 гадоў.

Генадзь Асташонак займаўся рэстаўрацыяй даспехаў і зброі мінулых часоў. Ягоныя працы можна ўбачыць, напрыклад, у Мірскім замку, дзе пад іх адведзена асобная вітрына. Пра смерць мастака напісаў шэраг замежных сайтаў, якія спецыялізуюцца на старажытнай зброі.

Рыгор Барадулін быў найбліжэйшым сябрам Асташонка, у ягонай кампаніі адзначаў дні народзінаў. Спецыяльна для Барадуліна Асташонак разам з Юрасём Гудзіновічам зрабіў рыцарскія даспехі. Па словах мастака Алеся Марачкіна, выйшла настолькі выдатна, нават цяжка было паверыць, што Барадулін не носіць іх штодня.

Генадзь Асташонак ад самага пачатку быў сябрам незалежнай мастакоўскай суполкі «Пагоня». «Звычайна мы выставы пачыналі з Генадзевых працаў, — расказвае Аляксей Марачкін. — Гэта абсалютна ўнікальны мастак, чыю творчасць мы толькі зараз пачынаем асэнсоўваць. Ён рабіў унікальныя рэчы: майстроў, якія ствараюць медалёны і медалі, у Беларусі мала. Ён узнавіў шматлікія рыцарскія латы, прычым філіграннасць ягонай працы выклікае здзіўленне. Менавіта пасля з'яўлення твораў Асташонка маладыя мастакі пачалі займацца рэстаўрацыяй — ён адкрыў для нас Сярэднявечча».

Асташонак актыўна дапамагаў Алесю Марачкіну і Алесю Шатэрніку падчас стварэння «Звона Свабоды»: 110-кілаграмовы бронзавы звон з выявай «Пагоні» пераробліваўся не адзін раз.

Прычынай смерці мастака стаў рак.

«Усё гэта здарылася вельмі хутка, — кажа сябар Асташонка, мастак Рыгор Сітніца. — Мы сустракаліся месяц таму, ён быў абсалютна звычайны — усё было ў парадку. Як мне расказвалі, ён проста пачаў сябе дрэнна адчуваць і накіраваўся ў паліклініку. Калі паставілі дыягназ, стала зразумела, што лекаванне ўжо не дапаможа. Усё адбылося літаральна за сем-дзесяць дзён...»

«Перадусім Генадзь быў вельмі сціплым, — кажа Марачкін. — Менавіта таму да яго цягнуліся людзі. Мне падаецца, што ён быў сапраўдным народным мастаком. Мауоцца на ўвазе не ўзнагароды і іншыя званні, а тое, што ён увесь час быў разам з народам, вяртаў народу ягоныя традыцыі».

**Юрась Ускоў**

## Мікалай Мельнікаў

Увечары 24 верасня ў Гродне на 89-м годзе жыцця памёр Мікалай Мельнікаў, стваральнік грамадскага музея Васіля Быкава, ветэран Другой сусветнай, сябра незалежнага Саюза пісьменнікаў, чалавек з актыўнай грамадскай пазіцыяй.

Мельнікаў выкладаў у Гродзенскім універсітэце філалогію. Пазней ён стварыў дэмакратычную ветэранскую арганізацыю і грамадскі музей Васіля Быкава, які трымаўся на энтузіязме і адданасці гэтага немаладога чалавека.

Сам спадар Мельнікаў быў з Чавускага раёна на Магілёўшчыне. У 2006 ён апублікаваў аўтабіяграфічныя ўспаміны «Адчай, боль і горыч». Аўтар пісаў, як у 1930-я «раскулачылі» іх сям'ю, саслалі ў лагер у Валагодскую вобласць...

Сёлета 11 траўня ў Гродне Мікалаю Мельнікаву была ўручаная прэмія імя Алеся Адамовіча — за доўгую плённую дзейнасць па захаванні гродзенскай спадчыны Васіля Быкава.

**СМ; радыё «Свабода»**

**Сцісла**

### Tito & Tarantula едуць у Мінск

8 кастрычніка ў Мінску ўпершыню адыграе канцэрт гурт Tito & Tarantula. Іх песні гучалі ў фільмах Квенціна Таранціна («Ад заходу да світання») і Роберта Радрыгеса («Адчайны»). Калі «стрэлілі» абодва фільмы з іх удзелам, Tito & Tarantula сталі сусветна вядомымі. Гэтыя каліфарнійцы спалучаюць у сваёй музыцы хард-рок і блюз, стоўнар і лацінскую музыку. Канцэрт гурта адбудзецца ў мінскім клубе Dozari.

### У Беларусь прывязуць Біблію Скарыны

Падчас Тыдняў Германіі, якія пройдуць у Мінску ад 26 верасня да 11 кастрычніка, беларусам будзе прадстаўленая Біблія Францыска Скарыны. Прэзентацыя Бібліі пройдзе ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі 4 кастрычніка. Там кніга будзе да 13 кастрычніка, а з 15 па 24 кастрычніка Біблія Скарыны выстаўвяць ў Нясвіжы. Ад 2003 выданне належыць Верхнелужыцкай навуковай бібліятэцы Герліца і там захоўваецца.

### Часопісу «Дзеяслоў» — 10 гадоў

23 верасня сустрэў дзясятыя ўгодкі адзіны ў краіне незалежны часопіс беларускай мастацкай літаратуры «Дзеяслоў». Цягам усіх гадоў выданне ўзначальвае яго галоўны рэдактар Барыс Пятровіч. Першы нумар «Дзеяслова» быў прэзэнтаваны ў 2002 падчас 14-га З'езда пісьменніцкага саюза (тады яшчэ не падзеленага) у вельмі няпросты час. За час свайго існавання «Дзеяслоў» надрукаваў сотні цікавых празаічных і паэтычных твораў, крытычных артыкулаў, адкрыў нямала маладых літаратурных талентаў. У кастрычніку гэтага года пабачыць свет «Дзеяслоў» № 60.

### Рыхтуецца экскурсія па сутарэннях Нясвіжскага замка

Музей-запаведнік распрацоўвае маршрут па абарончых збудаваннях. Ён будзе ўключаць у сябе наведванне падземнага хода, пад валамі. Экскурсія будзе займаць 45 хвілін. Працягласць адрэстаўраванага падземнага хода складае каля 50 м.

### Фільм «У тумане» па Быкаву атрымаў прыз на «Кінашоку»

Мастацкая стужка рэжысёра Сяргея Лазніцы па аповесці Васіля Быкава «У тумане» адзначана на XXI Адкрытым фестывалі кіно краінаў СНД і Балтыі «Кінашок-2012», які адбыўся ў Анапе.

**СМ**

# Адкрыты ліст дацэнта Чарнякевіча прарэктару Агіявец

«Акрамя самога А. А. Васіленкі, у кабінеце прысутнічаў **прадстаўнік Камітэта дзяржаўнай бяспекі**, які прадставіўся як «Сан Саныч».

Першаму прарэктару
Гродзенскага дзяржаўнага
ўніверсітэта імя Янкі Купалы
Агіявец С. У.

Паважаная Святлана Уладзіміраўна!

У панядзелак 10 верасня я быў тэрмінова выкліканы па тэлефоне начальнікам Цэнтра кадравай і прававой работы ГрДУ А.А.Васіленкам на размову. Прычыны для такой сустрэчы мне пры гэтым не патлумачылі. Акрамя самога А. А. Васіленкі, у кабінеце прысутнічалі кіраўнік аддзела бяспекі ўніверсітэта С. А. Рыбчанка і прадстаўнік Камітэта дзяржаўнай бяспекі, які прадставіўся як «Сан Саныч». Зусім нечакана асноўнай тэмай сустрэчы стаў мой удзел у працы аўтарскага калектыву па выданні падручніка «Гродназнаўства». Сама гутарка па форме хутчэй нагадвала допыт і не мела, на мой погляд, прамога дачынення да маіх прафесійных абавязкаў. На маё пытанне адносна прычыны такой павышанай цікавасці да кнігі, якая перад гэтым ужо двойчы выходзіла нават у выдавецтве самога ўніверсітэта, адказу атрымана не было. Такім самым чынам былі праігнараваныя і мае шматразовыя нагадванні адносна неабходнасці правядзення мною лекцыі, у выніку чаго я не здолеў своечасова патрапіць на заняткі ў корпус факультэта псіхалогіі.

Якое ж было маё здзіўленне, калі літаральна праз два дні пасля згаданай размовы ў тым жа самым кабінеце ў прысутнасці А. А. Васіленкі і С. А. Рыбчанкі мне прадставілі для азнаямлення ДВА (!) акты аб маёй адсутнасці на працоўным месцы падчас заняткаў. У першым выпадку я затрымаўся хвілін на пяць у дэканаце факультэта матэматыкі і інфарматыкі, удакладняючы расклад заняткаў, а ў другім затрымка складала яшчэ меншы час, прытым я сам папрасіў студэнтаў крыху пачакаць, маючы неабходнасць прыняць лекі (у актах тэрміны дадзеных спазненняў выраслі адпаведна да дзесяці і пяці хвілін). Такім чынам, дзвюх паперак, падпісаных асобамі, якія напярэдадні фактычна сарвалі мне занятак, хапіла для таго, каб я атрымаў заўвагу (першую за адзінаццаць гадоў працы) і быў звольнены.

З Гродзенскім універсітэтам мяне звязваюць амаль дваццаць гадоў вучобы і працы. Тут таксама вучыўся і працаваў мой бацька. Лічу, што я ніколі не даваў нагоды для таго, каб узнікалі сумневы ў маім прафесіяналізме. Хвіліна затрымкі на лекцыю напярэдадні пяці параў запар тымі людзьмі, якія самі калісьці выкладалі, наўрад ці будзе разглядацца ў якасці нейкага злачынства.

Атрымліваецца, што адзінай прычынай таго, што здарылася, з'яўляецца выхад кнігі па гісторыі Гродна. Магу яшчэ раз падкрэсліць, што мне не сорамна за сваю працу. Ведаю, што Вы з самага пачатку былі ў курсе ўсёй справы, і лічу сваё звальненне праявай абсурду, які вынікае з фармалізму і службовага імпэту асобных службовых асоб, вартага іншага ўжывання.

Шчыра разлічваю на перагляд рашэння і адмену зробленай мне заўвагі.

**Андрэй Чарнякевіч**
**Дацэнт кафедры эканамічнай тэорыі ГрДУ, кандыдат гістарычных навук.**

# «Лекар — гэта значыць фельчар»?!

Або Хто не разумее па-беларуску — ліст **з аддзялення траўматалогіі**.

Апынуўшыся ў лячэбні хуткай дапамогі (вядомая сталічная лякарня на вул. Казінца) у аддзяленні траўматалогіі на восьмым паверсе з пераломам дванаццатага хрыбетніка, падчас самага позняга вечаровага абыходу (каля 22:00) запытаўся я ў дзяжурнага лекара Кавалёва, як бы зрабіць так, каб да суседа майго па палатным ложку, цяжкахворага, нехадзячага Пракопчыка, санітаркі падыходзілі падставіць судна ці вынесці мядзяны жбанок («вутку»), калі ён кліча...

— Прабачце, спадар лекар, можа не зусім да вас пытанне...

— Ізвініце, я доктар! А лекар — значыць фельчар...

— Прабачце, вы ж лекар, у вас вышэйшая адукацыя...

— Ізвініце, но по-беларускі я вабшчэ не понімаю...

Не стаў я даводзіць (ды ўжо і не было каму), што доктар, лекар, медык, урач — сінонімы... Гэтаксама, што нягожа медыку, прозвішча якога сведчыла, што продкі ягоныя таксама былі адмыслоўцамі кавалямі, а не кузняцамі, гэтак пагарджаць мовай Купалы—Коласа—Караткевіча...

Самае смешнае, што са мною побач ляжаў мой родны 80-гадовы дзядзька, які зваліўся з таго самага воза, што і я. Толькі «траўма» ягоная – быццам «лягчэйшая» (пераломам правай ключыцы). Але ці бываюць лёгкія траўмы ў такім веку?

Зрэшты, я тут не пра хваробы і дакладнасць дыягназаў. Я пра тое, на якой мове мог звярнуцца да такога «лекара» 80-гадовы мой дзядзька як не па-беларуску?

Як бы прачытаўшы гэтыя думкі, аднапалатнік і калега па няшчасці (яго «выразалі» аўтагенам з-пад аўтобуса), з прозвішчам Пракопчык, толькі здзіўлена канстатаваў:

— Прабач, збоку было такое ўражанне, быццам ты звярнуўся да яго па-нямецку...

А мой лекар, што лячыў мяне і прозвішча якога я даведаўся пасля — Карабейнікаў, — зусім не меў праблем з паразуменнем.

А найсмяшнейшае тое, што калі наступнага дня суседу майму зусім зрабілася блага (пачалася дыхавіца), пра стан хворага Пракопчыка падрабязней тлумачыў я лекару Халіду Рустамаву.

Лекар гэты, на выгляд ані не беларус, а выліты чарнавокі азербайджанец, сын Мірзабека, некалькі разоў перапытаў у мяне ўдакладненні на... добрай беларускай мове!

Як пішуць у такіх выпадках безгустоўныя раманісты, «я ледзьве не зваліўся з ложка».

А вось за нізкую прафесійную і чалавечую культуру такіх «фельчараў» — прыкра.

**Язэп Карловіч, Мінская лякарня неадкладнай дапамогі**

# Загадка камяніцы з рызалітам

Дзе ў Мінску засядаў Трыбунал ВКЛ? Піша **Алег Дзярновіч**.

Галоўны Трыбунал Вялікага Княства Літоўскага быў вярхоўнай судовай сістэмы ВКЛ — адной з самых перадавых у Еўропе Новага часу. У гэты найвышэйшы апеляцыйны суд звярталіся тыя, хто не дабіўся праўды ў судах ніжэйшай інстанцыі.

Ён быў створаны вялікімі князямі ў канцы XVI стагоддзя. То быў час маштабных рэформаў. Дастаткова прыгадаць Валочную памеру, якая распачалася ў 1557, адміністрацыйна-судовую рэформу 1564—1566, калі паўсталі ваяводствы і паветы ды была сфармавана сістэма земскіх і гродскіх судоў. Трыбунал вянчаў гэтую сістэму.

Ён кіраваўся прынятай 1 сакавіка 1581 г. на варшаўскім Сойме ўхвалы «Трыбунал абывацелям Вялікага Княства Літоўскага». Тэкст «Трыбунала» быў апублікаваны ў 1586 у Вільні, у знакамітай друкарні Мамонічаў, па-старабеларуску. У XVII ст. яго выдавалі ўжо на польскай мове. Звычайна трыбунальскую канстытуцыю друкавалі разам са Статутам 1588, і да нашых дзён гэтыя дзве кнігі дайшлі часта пераплеценымі пад адной вокладкай.

Суддзямі Трыбунала маглі быць толькі ўраджэнцы ВКЛ, шляхцічы, што мелі ўласныя маёнткі, дасведчаныя ў праве і мясцовых звычаях. Пачатак першай «выбарчай кампаніі» быў прызначаны на 2 лютага 1582. Такім чынам, сёлета спаўняецца 430 гадоў з пачатку дзейнасці аднаго з найважнейшых судовых інстытутаў у нашай гісторыі.

### 45 дэпутатаў

Ад кожнага павета шляхта на сойміках абірала ў Трыбунал двух прадстаўнікоў паўнамоцтвамі на адзін год. ВКЛ пасля Люблінскай уніі складалася з 22 базавых адміністрацыйных адзінак. Ад 1588 Жмудзь (сучасная Літва) стала прысылаць ужо трох дэпутатаў, як даволі вялікі рэгіён. Сесіі Трыбунала праходзілі пад старшынствам выбранага дэпутатамі маршалка, пастановы прымаліся большасцю галасоў на аснове Статутаў ВКЛ і соймавых канстытуцый.

Галоўнай сядзібай Трыбунала была Вільня. Але дзейнасць гэтай судовай інстанцыі была арганізаваная так, каб наблізіць яе да рэгіёнаў. Сесіі Трыбунала (кадэнцыі) праводзіліся таксама ў Троках, Навагрудку і Мінску. Колькасць спраў была такой велізарнай, што цяжка было змусіць усіх пазоўнікаў прыязджаць у сталіцу.

Тэрмін штогадовай інагурацыі Трыбунала ВКЛ быў вызначаны заканадаўча і прыпадаў на панядзелак праз два тыдні пасля Вялікадня. Свята гэтае было рухомым, і кадэнцыі распачыналіся паміж 6 красавіка і 10 мая.



Язэп Драздовіч. Дом былога судзілішча Менскага замка. 1920.

### Трыбунал падвышаў статус Мінска

Дэпутаты збіраліся ў сталіцы ВКЛ, дзе чатыры тыдні слухалі справы па Віленскім ваяводстве, а потым два тыдні — па Полацкім. Затым суд пераязджаў у блізкія Трокі і шэсць тыдняў разбіраў справы там. Далей наступаў двухтыднёвы перапынак, Трыбунал перамяшчаўся ў Навагрудак, дзе дванаццаць тыдняў абмяркоўваліся скаргі з Навагрудскага і Берасцейскага ваяводстваў. Пасля зноў быў перапынак і суд пераязджаў у Мінск. Тут разглядаліся па чарзе справы Віцебскага, Мсціслаўскага і Мінскага ваяводстваў. Так выглядаў графік працы Трыбунала ў першыя гады існавання. Быў ён нязручным, бо прадугледжваў частыя і доўгія падарожжы.

У 1588 адбылася рацыяналізацыя: пасяджэнні па-за Вільняй сталі адбывацца папераменна, праз год — у Навагрудку і Мінску. Навагрудскія і Мінскія сесіі атрымалі назву Рускіх кадэнцый.

Змены ў расклад пасяджэнняў былі ўнесеныя на Каранацыйным Сойме 1773—1775. Інагурацыя кожнага новага складу Трыбунала адбывалася 1 мая ў Гродне, якое паступова набывала некаторыя функцыі сталіцы ВКЛ. Да 30 верасня таксама ў Гродне адбываліся пасяджэнні Рускай кадэнцыі. Гэты парадак пратрываў да 1791 г. У апошнія гады Рэчы Паспалітай сесіі Трыбунала адбываліся ў Вільні, альбо зусім зрываліся праз уварванні расійскіх войскаў.

Такім чынам, ад самага стварэння і да 1773 Галоўны Трыбунал ВКЛ рэгулярна засядаў у Мінску. Ад гэтага статус места ў дзяржаве значна павышаўся. Магчыма, тады і пачалося яго ўзыходжанне да сённяшняга статусу сталіцы незалежнай Беларусі.

**Рызаліт**

(італ. Risalita «выступ») -- частка будынка, якая выступае за асноўную лінію фасада і ідзе ва ўсю вышыню будынка. Звычайна гэтыя архітэктурныя элементы сіметрычныя па адносінах да цэнтральнай восі будынка. Складаюць адзінае цэлае з асноўнай масай пабудовы.

### Падказка Драздовіча

Але ж дзе адбываліся пасяджэнні гэтага найважнейшага судовага органа краіны? Куды з'язджалася шляхта бараніць свае правы? У пратаколах пасяджэнняў мы можам сустрэць указанне, што «суддзі галоўныя» збіраліся «на замку Менскім». А канкрэтней? Падказку даюць выявы Мінска пачатку XX ст., у тым ліку і рысункі аднаго з найслыннейшых беларускіх мастакоў таго часу Язэпа Драздовіча.

У 1919 Драздовіч пасяліўся ў Менску і стаў настаўнікам малявання ў Беларускай вышэйшай жаночай школе, адначасна працуючы ілюстратарам у літаратурных выдавецтвах і мастаком-дэкаратарам ў Таварыстве беларускага мастацтва. Менскі перыяд творчасці мастака пазначаны графічнай серыяй гістарычных помнікаў горада. Гэта класічны выгляд Высокага рынку з Траецкай гары і нізка аркушаў з выявамі Менскага замчышча. Гэта жывыя дакументы часу, што данеслі да нас аблічча старога горада. На адным з іх — «Дом былога судзілішча Менскага замка», бачны цераз пралом мура.

Ёсць і фотавыявы гэтай камяніцы. Яны захоўваюцца ў Нацыянальным музеі ў Варшаве. Калі параўнаць рысунак і фота, можна пераканацца, што на іх — адзін і той жа будынак.

На некаторых гістарычных ілюстрацыях указваецца, што гэта будынак гродскага суда. Шляхта не надта любіла судзіцца ў гродскіх судах, але нават у Вільні для Трыбунала і павятовых судоў быў узведзены адзін гмах. Менская ж гістарычная традыцыя магла захаваць назву гродскага суда, бо той дзейнічаў даўжэй за Трыбунал, ужо пасля знікнення дзяржавы, — аж да першай трэці XIX ст.

### Роўнае месца за Домам фізкультурніка

Стаяла гэтая камяніца з характэрным выступам — рызалітам — у паўночна-ўсходнім куце замка. Тут знаходзіліся гаспадарскія (вялікакняскія) і ваяводскія пабудовы, у тым ліку рэзідэнцыя менскага ваяводы і судовы будынак, у якім найхутчэй і адбываліся менскія кадэнцыі Трыбунала ВКЛ. Цяпер там — роўнае месца.

Але калі ён быў разбураны? Праўдападобна, мураваныя будынкі на Менскім замчышчы зазналі разбурэнні падчас бамбаванняў 1941—1944. Прынамсі, на здымках 1944 мы бачым моцна пашкоджаныя камяніцы. Яны былі канчаткова разабраныя да лета 1949. Асобныя ўчасткі землянога вала замка захоўваліся да 1950-х і былі зрытыя падчас пракладкі Паркавай магістралі (сёння — праспект Пераможцаў). Пачынаючы ж ад 1956, на замчышчы праводзіліся маштабныя будаўнічыя работы, звязаныя з рыццём катлавана для спартовага павільёна «Працоўныя рэзервы» (сучасны Дом фізкультурніка) і нівеліроўцы паверхні ўсяго замчышча. Тады было зрэзана 3—3,5 метра культурных напластаванняў, якія захоўвалі сляды дзейнасці чалавека ў мінулым. Праўдападобна, тады былі выкапаныя і выкінутыя і падмуркі судовага палаца. Сёння на яго месцы — пустэча за Домам фізкультурніка на беразе Свіслачы (раён станцыі метро «Няміга»).

### Улічыць падчас рэканструкцыі замчышча!

Такім чынам, маем версію размяшчэння будынка Трыбунала ВКЛ — аднаго з самых старажытных судовых будынкаў Мінска. Цяпер гарадскія ўлады распрацоўваюць маштабны праект рэканструкцыі Мінскага замчышча. Варта, прынамсі, пазначыць на ім месца Трыбунала, у якім продкі стагоддзямі адстойвалі справядлівасць.



Будынак гродскага суда на замчышчы, фота пач. XX ст.

# БАТЭ — «Баварыя»




Чэмпіён Беларусі 2 кастрычніка правядзе першую гульню групавога этапа Лігі чэмпіёнаў дома. На стадыёне «Дынама» а 21:45 сустрэнуцца лідары групы. У першым туры БАТЭ ў гасцях перамог «Ліль» — 3:1, а «Баварыя» была мацней за «Валенсію» — 2:1. Каб пабачыць жыўцом гульню, трэба аддаць 80, 200 ці 300 тысяч рублёў.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## ФУТБОЛ

### 26 тур

**29 верасня** сустракаюцца: БАТЭ (Барысаў) — «Нёман» (Гродна).
**30 верасня:** «Брэст» — «Дынама» (Мінск), «Нафтан» (Наваполацк) — «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна), «Мінск» — «Гомель», «Славія» (Мазыр) — «Шахцёр» (Салігорск).

## ХАКЕЙ

### Прыедзе «Лакаматыў»

**30 верасня мінскае «Дынама»** ў рамках КХЛ прыме мыцішчанскі «Атлант». Пачатак а 17:00. Капітанам «Атланта» з'яўляецца наш Канстанцін Кальцоў. **2 кастрычніка «Дынама»** згуляе з аднаўленым яраслаўскім «Лакаматывам». Пачатак а 19:00. У «Лакаматыва» капітаніць таксама беларус Аляксей Калюжны. Матчы на «Мінск-Арэне».

## ІМПРЭЗЫ

### Талькаўскі фэст — 2012

**Свята бардаў, паэтаў, аматараў народных песень, танцаў і гульняў адбудзецца 7 кастрычніка,** у нядзелю. Збор а 12 гадзіне ля клуба ў вёсцы Талька (Пухавіцкі раён). Даехаць з Мінска можна электрычкай (кірунак — Асіповічы).

### Арытмія, альбо код супрацыву

**26 верасня а 17-й у галерэі «Ў» (пр.Незалежнасці, 37а)** — прэзентацыя кнігі А.Тамковіча «Арытмія, альбо код супрацыву».

### Прэзентацыя рамана «Палімпсест» Алеся Аркуша

**1 кастрычніка, 19:00. Галерэя сучаснага мастацтва «Ў» (Незалежнасці, 37а)**. Музыка: Лявон Вольскі, Вольга Акуліч, Monkey Bite. Бяруць удзел літаратары: Валянцін Акудовіч, Уладзімір Арлоў, Пятро Васючэнка, Зміцер Вішнёў, Віктар Жыбуль, Віктар Лупасін, Ігар Сідарук.

## КАНЦЭРТЫ

### Жан-Люк Панці

**29 верасня, у дзень свайго 70-годдзя, у Мінску выступіць Жан-Люк Панці** — «першая скрыпка» сусветнага джаза. Канцэрт пачнецца а 20-й у Белдзяржцырку.

### Рокаш і Pawa

**4 кастрычніка а 19-й у «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — канцэрт неафолк гуртоў «Рокаш» і Pawa.

### Крок за крокам

**10 кастрычніка ў Re:public (Прытыцкага, 62)** — гурт :B:N: з прэзентацыяй трэцяга альбома «Крок за крокам».

### Ў нескладовае

**27 верасня адбудзецца канцэрт гурта «Ў нескладовае»** ў клубе Re:Public. Інфармацыя па т. (029) 110-35-35.

### Трыб'ют Metallica

**30 верасня а 18-й у Re:Public (Прытыцкага, 62)** — трыб'ют Metallica. Бяруць удзел: Aillion, Magneti[k]a, Versus7, Lost Regrets, Мікіта Шаламіцкі, Кірыл Тамашэвіч, Ян Жанчак.

### Фэст Ноз

**30 верасня а 19-й у «Лісінай нары» (Каліноўскага, 32)** — «Фэст Ноз» — брэтонская танцавальная вечарына.

## ВЫСТАВЫ

### Я заўжды помню голас Твой

**У Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа працуе выстава «...Я заўжды помню голас Твой»**, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Максіма Танка. На выставе прадстаўлены кнігі Максіма Танка з дарчымі надпісамі Якубу Коласу, вершы-прысвячэнні Танка Коласу, фотаздымкі, на якіх адлюстравана сумесная паездка ў Ленінград і адпачынак на Нарачы, малой радзіме Максіма Танка.

### Калекцыя экслібрыса

**У Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (пр. Незалежнасці, 47)** працуе выстава «Калекцыя экслібрыса», прысвечаная 15-годдзю музея. Да свайго юбілею музей прадстаўляе міжнародную выстаўку з музейных фондаў — калекцыю экслібрыса (ex libris — з лац. «з кніг» — «кніжны знак»). Выстаўка міжнароднага экслібрыса працягнецца па 29 верасня, экспазіцыя беларускага экслібрыса — па 6 кастрычніка.

### Сюжэты з жыцця

**Выстаўка мастацкага шкла і графікі Людмілы Мягковай і Уладзіміра Мурахвера «Сюжэты з жыцця» працуе да 30 верасня** ў Музеі гісторыі горада (Рэвалюцыйная, 10).

## ТЭАТРЫ

### 26 верасня

**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»
**Оперы і балета** — «Трыстан і Ізольда. Шапеніяна»
**Юнага гледача** — «Аднакласнікі»

### 27 верасня

**Лялек** — «Чаму старэюць людзі?»
**Беларускай драматургіі** — «Ліфт»
**Юнага гледача** — «Аднакласнікі»

### 28 верасня

**Беларускай драматургіі** — «Дажыць да прэм'еры»
**Лялек** — «Шоўк»
**Оперы і балета** — «Рамэа і Джульета»

### 29 верасня

**Юнага гледача** — «Кот у ботах»
**Лялек** — «Мыйдадзір»
**Беларускай драматургіі** — «Дажыць да прэм'еры»

### 30 верасня

**Лялек** — «Марозка»
**Юнага гледача** — «Дзюймовачка»
**Оперы і балета** — «Іяланта»
**Беларускай драматургіі** — «Стойкі алавяны салдацік»
**Беларускай драматургіі** — «Адэль»
**Оперы і балета** — «Дон Кіхот»

## КІНО

### Кроў падсудных

**Суддзя Дрэд** (Dredd 3D)
ЗША — Вялікабрытанія — Індыя, 2012, каляровы, 3D
**Рэжысёр:** Піт Трэвіс
**Ролі выконваюць:** Карл Урбан, Алівія Цірлбі, Ліна Гідзі, Вуд Гарыс, Рэйчэл Вуд, Андзіл Мнгадзі
**Жанр:** Фантастычны баявік, толькі з 18 гадоў
**Адзнака:** 6,5 (з 10)

Пасля катастрофы людзі жывуць у гарадах, дзе пануе неабмежаваная злачыннасць. Толькі суддзі, якія адначасова следчыя, пракуроры і каты, спрабуюць збіць хвалю анархіі. Дасведчаны суддзя Дрэд адпраўляецца на заданне з вучаніцаю, якая мусіць прайсці іспыты. У бетонным людскім мурашніку галоўная бандытка абвяшчае паляванне на суддзяў. Карціна Піта Трэвіса — брутальнае відовішча з суровымі сцэнамі і пырскамі крыві на ўвесь экран. Комікс пра суддзю Дрэда ўжо ставіўся 17 гадоў таму. Абаронцу закона сыграў Сільвестр Сталонэ. Сённяшні фільм пра іншыя прыгоды суддзі. Сама стужка куды больш жорсткая — і куды больш стылёвая.
Чыгунныя муры ў аграмадных дамах, заблытаныя шэра-чырвоныя калідоры, зляканыя людзі, шалёная бандытка МаМа, адрэналін, фантастычныя кулямёты састарэлай канструкцыі. Суддзя Дрэд — бязлітасная машына пакарання — ніколі не здымае шалом. Ягоная вучаніца — пекная бландзінка з экстрасэнсорнымі здольнасцямі складае яму годную пару.

**Андрэй Расінскі**







### Dziecuki

**28 верасня ў клубе Rocker Bar (Талбухіна,4)** адбудзецца канцэрт фолк-панк гурта Dziecuki з Гродна. Цана білета — 30 тысяч рублёў.



### Паляванне і рыбалка

**Выставачны цэнтр «Белэкспа»** запрашае прыняць удзел у Міжнароднай спецыялізаванай выставе-кірмашы «Паляванне і рыбалоўства. Восень-2012», якая будзе праходзіць ад 27 да 30 верасня па адрасе вул. Я.Купалы, 27.

# У цэнтры Мінска адкрылася прынцыпова беларускамоўная кавярня…




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

За дзень кавярню наведвае **паўтары сотні** чалавек.

Кавярня «Альба-кава» працуе ўжо чатыры месяцы — невялічкае памяшканне на рагу Першамайскай і Ульянаўскай, пара столікаў ля ўвахода. «Зімой будзем працаваць на вынас, — тлумачаць прадаўцы. — І зараз атрымліваецца ў асноўным на вынас».

Беларускамоўная кавярня карыстаецца попытам — за дзень яе наведвае каля 150 чалавек. Шмат хто імкнецца перайсці ў размове з прадаўцамі на беларускую мову. Усе шыльды, цэннікі і пазнакі ў кавярні аформлены па-беларуску, а супрацоўнікі атрымліваюць «моўную» надбаўку ў 10% да заробку.

Цэны ў «Альба-каве» болей чым прымальныя для кавярні — за кубак «эспрэса», «амерыкана» ці «крэма» давядзецца аддаць 7000 рублёў, а за «капучына» і «латэ» — 10 000. Апроч таго, штодня, за выняткам суботы, у кавярні з'яўляецца свежы выпек. Заснаваў кавярню мінчук Аляксандр Міхнюк.

Дарэчы, зімой «Альба-кава» пачне працаваць і ў нядзелі.

**ЮУ**



CITYDOG.BY

## … і першая «антыкавярня»

За хвіліну бяруць 300 рублёў, **забавы прапануюць бясплатна**.

У сталіцы афіцыйна адкрылася першая гарадская «антыкавярня» пад назвай «Дом Фішэра». Установа размясцілася ў раёне парку Чалюскінцаў, па адрасе Незалежнасці, 84а. Уладальнікі прапануюць наведнікам незвычайны для Мінска фармат: грошы бяруць за праведзены час, а забавы і пачастункі — бясплатна.

Памяшканне, якое займае «Дом Фішэра», умоўна падзеленае на некалькі пакояў-зон. Ёсць маленькая кухня (потым тут паставяць лядоўню і мікрахвалёўку), агульная зала з невялікай сцэнай, пакоі для гульняў і рэлаксу. Рамонт яшчэ не завершаны, шмат чаго трэба дарабіць. Інтэр'еры стараліся выканаць у «хатнім» стылі, які пасуе для адпачынку.

Хвіліна ў «Доме Фішэра» каштуе 300 рублёў, гадзіна — 18 000 і гэтак далей. Імя кожнага наведніка (або сябра, кажуць уладнікі) будуць запісваць на спецыяльнай дошцы, указваючы тут жа час, калі чалавек зайшоў. Аплата — на выхадзе.

На банкетнае меню разлічваць не варта, а вось кавай, гарбатай, печывам абяцаюць пачаставаць кожнага. Ежу можна прынесці з сабой, на цыгарэты і алкаголь накладзена табу.

**Onliner.by**

## Білет не выходзячы з дома

Беларуская чыгунка ўвяла **новую паслугу**.

Цяпер білет можна купляць праз інтэрнэт. Раней, набыўшы квіток у сеціве, усё адно даводзілася ісці на вакзал і атрымліваць яго ў касе. Паколькі чэргі з пакупнікоў стаяць там ледзь не кругласутачна, усё адно марнавалася нямала часу.

Новая працэдура больш простая: трэба на сайце чыгункі (www.rw.by) абраць месца ў вагоне, увесці свае пашпартныя дадзеныя і зрабіць аплату. Прапануецца заплаціць праз інтэрнэт-банкінг альбо сістэмы EasyPay і WebMoney.

Электронную рэгістрацыю можна зрабіць толькі за адну гадзіну да адпраўлення цягніка з пачатковай станцыі маршрута. Пасля, пры пасадцы, дастаткова паказаць праваднiку свой пашпарт.

Пакуль што сістэма распаўсюджваецца толькі на цягнікі №105/106 «Брэст — Мінск» і №117/118 «Віцебск – Мінск». У будучыні паслуга будзе працаваць і на астатніх кірунках.

Варта нагадаць, што «Мінсктранс» увёў такую паслугу больш за год таму, прычым за білет можна заплаціць і праз мабільны тэлефон. Апроч таго, білеты можна набыць і праз інфакіёскі.

**ЯМ**

Аўто

## Магілёўская траса стала хуткаснай



На некаторых участках **можна ехаць 120 км/г.**

Траса М4 Мінск—Магілёў была цалкам рэканструяваная да «Дажынак» у Горках — пабудаваныя новыя шматузроўневыя развязкі і аб'езды гарадоў, павялічаная колькасць палосаў для руху. Цяпер вырасла і дазволеная хуткасць.

З 79 км да 167 км трасы за стырном легкавіка можна будзе беспакарана ехаць 120+9 км/г. Абмежаванне для грузавікоў там складзе 100+9 км/г. На астатнім кавалку трасы дазволеная хуткасць па-ранейшаму будзе складаць 90 км/г.

Такім чынам, цяпер у Беларусі з'явілася трэцяя хуткасная траса, пасля дарогі Брэст—мяжа з Расіяй і Слабада—Аэрапорт «Мінск-2».

**ЯМ**

## Сцісла

### У Таліне праезд у грамадскім транспарце будзе бясплатны

Так у сталіцы Эстоніі хочуць паспрыяць разгрузцы вуліц ад аўтамабіляў. Рашэнне распаўсюджваецца толькі на жыхароў горада і іншагародніх студэнтаў, якія вучацца ў талінскіх ВНУ. Турыстам жа прыйдзецца па-ранейшаму плаціць.

### Новы сезон мінскага цырка

З 22 верасня ў Белдзяржцырку пачалася новая праграма «Цырк працягвае здзіўляць!». Наведнікам абяцаюць сустрэчу з дрэсіраванымі жывёламі, відовішчныя паветраныя нумары, іспанскага блазна і амерыканскага жанглёра. Цэны на квіткі ў мінскі цырк пачынаюцца ад 30 тысяч рублёў (верхнія шэрагі двух сектараў) і дасягаюць 300 тысяч (VIP-ложа).

### У Гродна адкрыўся iStore

22 верасня ў гродзенскім гандлёвым цэнтры «Карона» адкрылася фірмовая аўтарызаваная крама Apple — «i-Store». Дагэтуль адзіная крама ў Беларусі працавала ў Мінску. Пакупнікі могуць набыць усе навінкі амерыканскай кампаніі Apple, апроч айфонаў.

**ЯМ**



**Прэм’ер-міністр Нарвегіі Енс Столтэнберг прызначыў міністрам культуры краіны 29-гадовую мусульманку Хадзію Таік. Гэта самы малады міністр у гісторыі Нарвегіі. У Беларусі наймаладзейшым таксама з’яўляецца міністр культуры. Паўлу Латушку — 39 гадоў.**



**«Казус з уніформай», — так пракаментавала гэтае фота публіцыстка Святлана Калінкіна ў сваім Фэйсбуку. Здымак з маскоўскай сустрэчы міністраў замежных справаў Беларусі і Расіі Уладзіміра Макея і Сяргея Лаўрова, што адбылася 19 верасня.**




**У Мінску адкрылі першы ў краіне апартамент-гатэль. Аднапакаёвы нумар будзе каштаваць $90. Гатэль «Камфорт» абсталяваны ў звычайнай панэльнай дзевяціпавярхоўцы — усе кватэры аснашчаныя неабходнай мэбляй, посудам і бытавой тэхнікай. На фота: гатэль інспектуе старшыня Мінгарвыканкама Мікалай Ладуцька.**



**У Маскве з’явілася новая мода: раз на тыдзень хадзіць на «балаклавінг». У ланцугах, у шапках-балаклавах. Гэта робіцца ў знак падтрымкі Pussy Riot.**

## Анекдоты

* * *

Мадам Ярмо: «Распространенные некоторыми наблюдателями сведения о явке избирателей взяты из головы».

Армянскае радыё: «А распаўсюджаныя старшынямі выбарчых камісіяў звесткі аб удзеле ў выбарах — з д...»

* * *

У чым адрозненне амерыканскага права ад беларускага?

У ЗША яно прэцэдэнтнае, а ў Беларусі беспрэцэдэнтнае.

* * *

Мяне таксама запрасілі галасаваць. Але я натурал.

* * *

— Смартфоны — гэта развод усіх часоў і народаў.

— ???

— Пакуль з салона прынясеш — усё ўжо састарэла!

* * *

Дрэсіроўшчык так глыбока засунуў галаву ў пашчу тыгру, што пабачыў кавалачак манежа.

* * *

«Калі верыць «Белстату», — так кажуць нават на БТ.

* * *

– Як ты назавеш сына?

– Янка. А ты?

– Таксама Янкам.

– Эй, не паўтарай за мной!

– А ты хочаш, каб у нашага сына былі розныя імёны?

* * *

Суседзі зусім абнаглелі, грукаюць уначы па батарэях. Добра, што я не сплю. Сяджу, на гармоніку граю.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Няхай нашы беларусы пакідаюць фальшывы страх,** няхай востра бяруцца да выбараў, няхай смела згаварываюцца між сабой і выбіраюць у павет, у губерню і ў Думу толькі такіх людзей, каторыя без усялякага страху будуць бараніць наш край і наш цёмны народ.

**«НН». №36. 1912.**

**Выйшаў №1 новага літаратурнага часопіса «Дзеяслоў»,** заснаванага пісьменнікамі, што сышлі з дзяржаўных выданняў. Галоўны рэдактар «Дзеяслова» — Барыс Пятровіч, ягоныя намеснікі — Эдуард Акулін і Алесь Пашкевіч. Матэрыялы ў часопісе групуюцца па чатырох раздзелах: «Паэзія», «Проза», «Пераклады», «Публіцыстыка».

**«НН». №36. 2002.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара — Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8030. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 25.09.2012.
Замова №4036.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12